
Калядкі ў Гайнаўцы →3

# Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


След каралевы Боны →4

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 05 (3012) Год LIX | Беласток, 2 лютага 2014 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


Цэнтр прамоцыі рэгіёна «Чарлёнка» ў Гайнаўцы пачаў арганізаваць сустрэчы з цыкла «Людзі і масмедыі». 24 студзеня госцем цэнтра быў журналіст і беларускі дзеяч **Яўген Вапа**, галоўны рэдактар нашага тыднёвіка «Ніва» і старшыня ўправы Радыё Рацыя.


Злева: Яўген Вапа, Мікола Бушко

# Адсюль родам

Нягледзячы на марознае надвор'е, на спатканне прыбылі жыхары Гайнаўкі і наваколля. Сярод сабраных былі, між іншым, пісьменнік Міхась Андрасюк, мастак Віктар Кабац, радны Гайнаўскага павета Міраслаў Раманюк, радная Гайнаўскай вясковай гміны Вольга Балтрамюк, настаўнікі Гайнаўскага белліцэя на чале з настаўнікам беларускай мовы Янам Карчэўскім, заадно віцэ-старшынёй управы аб'яднання «Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы».

Да 1998 года Яўген Вапа працаваў настаўнікам гісторыі ў Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы. Раней быў ён вучнем гэтай школы, а дзяцінства і маладасць правёў у Доўгім Бродзе Дубіцкай гміны. Прыязджаючы на сустрэчу ў Гайнаўку, вярнуўся ён на сваю Малую Бацькаўшчыну.

— Гайнаўка з перспектывы майго дзяцінства была месцам моцна аддаленым ад Мацкевічоў (неафіцыйная назва Доўгага Броду). Гісторыя Гайнаўкі кароткая ў параўнанні з гісторыяй нашых вёсак, якія ўзніклі з XIV па XVII стагоддзе. Гайнаўка не была гістарычным і культурным цэнтрам нашага рэгіёна. Нашы пушчанскія сёлы ў міжваенны перыяд і раней арыентаваліся на Камянец і Свіслач. Калі маладыя хлопцы сустракалі на акраіне Гайнаўкі жанчын, якія неслі сюды сельскагаспадарчыя прадукты на продаж, вылівалі ім малако і разбівалі яйкі. Гэта не прыцягвала нашых людзей у Гайнаўку. Толькі пасля ўсталявання дзяржаўнай мяжы, якая падзяліла Белавежскую пушчу, нашы пушчанскія людзі апынуліся пад сцяной і сталі на аўтобусах вывозіць іх на жыхарства ў Гайнаўку. Аднак у мяне склалася ўражанне, што Гайнаўка затрымалася ў дзіцячым узросце і нядольная ўвайсці ў дарослась, — гаварыў Яўген Вапа і праінфармаваў, што яго падстаўовая адукацыя адбывалася ажно ў трох пушчанскіх вёсках: Мацкевічах, Вітаве і Арэшкаве. — Мы, беларусы, павінны быць гаспадарамі на сваёй тэрыторыі і самі дбаць пра гаспадарчае развіццё, сваю мову, культуру і традыцыі, бо ніхто пра гэта так добра не паклапоціцца, як мы самі. Зараз вельмі важнае захаванне інтэлектуальных вартасцей нашага рэгіёна і моўных каштоўнасцей, з нашымі дыялектамі беларускай мовы ўключна, на што не звяртаюць увагі асобы, якія хочуць ахоўваць пушчу. Напрыклад, Вапін трыб, што знаходзіцца ў Белавежскай пушчы і атрымаў назву ад прозвішча Вапа, быў перайменаваны на «Wapienna Tryba». Гэта вялікая недарэчнасць чыноўнікаў. Мы самі павінны дбаць пра наш краявід, але ахова Белавежскай пушчы і яе наваколля ў рамках праграмы «Натура-2000» навязвае нам вонкавыя абмежаванні і спыняе разбудову рэгіёна.

Яўген Вапа лічыць, што да разбурэння беларускага этнасу ў рэгіёне Белавежскай пушчы заўважальна спрычынілася будова Семяноўскага вадасховішча, якога стварэнне толькі маскіравалася неабходнасцю будовы воднага рэзервуара для Беластока.

— Семяноўскае вадасховішча канчаткова даявяло толькі да непатрэбнага асушэння цэннага рэгіёна Белавежскай пушчы і да эміграцыі маладых людзей з нашага рэгіёна. Семяноўскі заліў перарваў натуральныя сувязі паміж Нараўчанскай і Міхалоўскай гмінамі, а самую вялікую трагедыю перажылі жыхары Лукі і іншых вёсак, якія заліла вада, — заявіў Яўген Вапа, які з асаблівай настальгіяй успамінаў у час сустрэчы сваю адукацыю ў Гайнаўскім белліцэі.

— Мы, вучні белліцэя, належалі да Клуба беларускіх спраў, які дзейнічаў у нашай школе. Ахвотна чыталі нелегальныя беларускія кніжкі, пачалі пісаць у «Ніву», спатыкаліся з беларускімі пісьменнікамі і вялі дыскусіі на інтэлектуальныя тэмы, — расказваў госць спаткання. — Закончыўшы вышэйшую адукацыю, у нас былі магчымасці застацца працаваць у Варшаве і іншых вялікіх гарадах, але мы вярталіся да сябе, на Падляшша. Маёй марай было вярнуцца на працу настаўнікам у белліцэі і яна здзейснілася. Зараз асабліва добра ўспамінаю сваю работу ў Гайнаўскім белліцэі.

Сустрэчу вёў старшыня гайнаўскага фонду «Царкоўная музыка» Мікола Бушко, арганізатар спатканняў з цыкла «Людзі і масмедыі». Вядучы коратка пазнаёміў сабраных з багатай дзейнасцю Яўгена Вапы, які студэнцкія гады правёў у Варшаве, дзе вучыўся на факультэце гісторыі Варшаўскага ўніверсітэта. Там дзейнічаў у Беларускім аб'яднанні студэнтаў, якое ўзначаліў у канцы васьмідзесятых гадоў, і быў сузаснавальнікам Рады культуры студэнтаў нацыянальных меншасцей.

— У БАСе таксама было чытанне недаступных у кнігарнях беларускіх кніжак, знаёмства з нашай гісторыяй, спяванне па-беларуску, рэйды і самаадукацыя. Мы ладзілі святкаванні Акту 25 Сакавіка, стараліся самі пісаць. Выдавалі «Сустрэчы», а з 1986 года быў у «Ніве» наш укладыш «Прысутнасць». Я, будучы вучнем падставовай школы, пісаў ужо ў «Зорку», а пасля ў «Парнасік», — успамінаў Яўген Вапа.

— Яўген — знакаміты, усебаковы чалавек, які жыве нашым рэгіёнам. Гэта ад яго выйшла прапанова, каб памяняць акругі да самаўрадавых выбараў у Сеймік Падляшскага ваяводства, хаця зараз паказваюцца іншыя ініцыятары гэтай задумы, — гаварыў Мікола Бушко. Звярнуў ён таксама ўвагу сабраных на беларускую паэзію госця спаткання і напомніў пра шматлікія кніжныя выданні «Нівы». З 1995 года Яўген Вапа кіруе дзейнасцю Беларускага саюза ў РП, а ў 1998 годзе быў сузаснавальнікам аб'яднання «Цэнтр грамадзянскай адукацыі Польшча-Беларусь» і ўвайшоў у склад яго кіраўніцтва. У час спаткання сабраныя ставілі пытанні наконт жыцця і клопатаў беларусаў Падляшша, тыднёвіка «Ніва», Радыё Рацыя, звярталі ўвагу на скарачэнне колькасці жыхароў Гайнаўскага павета і самой Гайнаўкі, бо многія выязджаюць за працай у іншыя гарады Польшчы і за мяжу.

— Без Яцка Кураня не было б закону аб нацыянальных меншасцях. Беларускі выбарчы камітэт быў заснаваны, бо беларусы хацелі самі вырашаць свае справы. Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне запрапанавала заснаваць Саюз гмін «Нарва», перадусім дзеля супольнага гаспадарчага развіцця, але пасля крытыкі з боку палякаў нашы войты сталі адмаўляцца ад удзелу ў ім. Я здаўна ў сеймавай Камісіі нацыянальных меншасцей намагаўся, каб стварыць асобную акругу для самаўрадавых выбараў у Падляшскі сеймік, якая ахапіла б тэрыторыю, на якой кампактна пражываюць беларусы. Гэтыя акругі былі зменены ў 2002 годзе ў некарысць для нас, беларусаў, — заявіў Яўген Вапа. — Хуткімі тэмпамі ідзе асіміляцыя беларускага насельніцтва і мы самі павінны намагацца захаваць сваю мову, нацыянальную тоеснасць і разгортваць культурную дзейнасць, бо звонку за нас гэтага не зробяць. Назіраючы самаўрадавыя выбары і прадстаўнікі розных палітычных партый хутка пачнуць рабіць заляцанні да беларускага электарату. Вельмі важна, каб людзі хадзілі на выбары, але трэба, каб беларусы самі вырашалі свае справы ў самаўрадах.

У час сустрэчы Яўген Вапа прыгадаў асобу Канстанціна Майсені, галоўнага будаўніка Гайнаўскага белмузея і чалавека моцна заслужанага для Гайнаўкі і яе наваколля.

— Канстанціна Майсеню тут ведалі. Ён не толькі збудаваў Беларускі музей, але спрычыніўся да гаспадарчага развіцця рэгіёна, будуючы на Гайнаўшчыне многа магазінаў, якія пасля сталі называць *майсенеўкамі*. Калі правілі ў Польшчы Гамулка, ці Герэк, у наш усходні рэгіён і на Гайнаўшчыну трапляла менш сродкаў, чым у іншыя рэгіёны Польшчы і маладыя выязджалі адсюль. Зараз з-за малой колькасці новых месц працы працягваецца выезд маладых людзей з Гайнаўшчыны за Віслу, у Варшаву, Лондан і іншыя гарады. У Гайнаўцы прапісаных каля 22 тысяч жыхароў, але мяркуецца, што жыве менш чым 20 тысяч чалавек. Помнікі з зубрамі сведчаць, што ў Гайнаўцы месца людзей займае лясная жывёла. Замест ставіць зуброў у горадзе, адна з вуліц Гайнаўкі павінна атрымаць назву Канстанціна Майсені, бо ён заслужыў гэтага, — заявіў Яўген Вапа. — Важна так дзейнічаць, каб маладым людзям быў шанц вярнуцца ў Гайнаўку, каб яны знаходзілі тут працу. Аднак гэтай праблемы не вырашыць стаўка на турызм і агратурызм, бо самае вялікае беспрацоўе ў Польшчы якраз у цудоўным рэгіёне Мазуры, дзе турысты жывуць толькі праз некалькі месяцаў у год. У Белавежскай пушчы і наваколлі людзі не выжывуць з агратурызму. У нашым клімаце прыбытак ад турызму можа быць толькі дабаўкай да ўтрымання. Экалагі і мясцовыя самаўрады, якія гавораць аб ахове Белавежскай пушчы, не змаглі давесці газапровода ў Гайнаўку, а Гайнаўскі павет — малы і зараз дзейнічае з дапамогай еўрасаюзных сродкаў. Пакольkі хутка падае колькасць яго жыхароў, пэўна з часам абдудзецца яго ліквідацыя і далучэнне да Бельскага павета, бо Гайнаўскі павет не стрымае мінімальных паказчыкаў для існавання павета.

Яўген Вапа прачытаў перад сабранымі раней запісаныя назіранні наконт Беларусі, звяртаючы ўвагу на нішчэнне беларускасці ў розных праявах. Гаварыў пра забарону карыстацца беларускім нацыянальным бел-чырвона-белым сцягам, адсутнасць беларускіх школ і беларускіх універсітэтаў у Беларусі. Галоўным рэдактарам тыднёвіка «Ніва» Яўген Вапа стаў у пачатку 2004 года. У час сустрэчы гаварыў пра гісторыю нашага тыднёвіка і заахвочваў сабраных купляць «Ніву», чытаць сваю газету.

— Калі самі сябе не будзем шанаваць, то і нас не будуць шанаваць іншыя. Можна раз на тыдзень не купіць піва, ці іншай дробязі, а за гэтыя грошы прыдбаць «Ніву». Будзе яна летапісам для будучых пакаленняў, бо ў нашай газеце апісваліся і апісваюцца ўсе праявы жыцця і дзейнасці беларусаў, — сказаў Яўген Вапа, сузаснавальнік Радыё Рацыя ў 1998 годзе, цяпер старшыня яго ўправы. Коратка расказваў ён сабраным як ствараcя радыё і як дзейнічае зараз. Гаварыў, што Радыё Рацыя дае ўсебаковую інфармацыю і вядзе адукацыйную дзейнасць, прапануючы праграмы слухачам рознага ўзросту і розных зацікаўленняў. За працу ў карысць беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы і за ангажаванасць у будову грамадзянскай супольнасці і дэмакратыі Яўген Вапа ў 2008 годзе атрымаў з рук прэзідэнта РП Леха Качынскага Кавалерскі крыж Ордэна Адраджэння Польшчы.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**





# Яны даказалі

Яны выйшлі на Майдан. Яны стаяць у люты мароз насупраць добра экіпіраваных шэрагаў сілавікоў, пад грукат выбуховых гранат, пад абстрэлам, пад пагрозамі арышту, збіцця і нават пад пагрозай страты жыцця. Яны кажуць, што ім няма куды зыходзіць.

Ніхто іх сілком не цягнуў. Яны прыйшлі самі. Па покліч душы, крыві і сэрца. Па парыву свайго сумлення і сваёй людской вартасці. Яны падняліся з каленяў і ім вельмі спадабалася стаяць на нагах. Цяпер яны гатовы рызыкаваць нават жыццём, абы толькі не згубіць велічнага пачуцця чалавечай і нацыянальнай годнасці.

Ім даводзяць, што недзе іх чакае ўтульная кватэра, мяккая канапа, гарачая вячэра, цёплы ложак і слязлівы тэлесерыял, дзе выдуманыя героі змагаюцца за прыдуманую праўду. Але яны не жадаюць жыць чужым жыццём. Яны самі выйшлі змагацца за праўду. І не за прыдуманую, а за сапраўдную. Яны самі сталі героямі. І не тэлевізійнымі, а рэальнымі героямі сваёй зямлі і свайго часу. Героямі, якія робяць гісторыю сваёй Радзімы. Яны хочуць быць людзьмі, якія не могуць і не жадаюць жыць без чалавечай вартасці і гонару. Яны здабываюць годную будучыню для сябе, для сваіх дзяцей, для свайго народа...

Яны кажуць што там, куды іх хочуць зноў загнаць, няма праўды, няма людскасці, няма жыцця... Там карумпаваная і злачынная ўлада, чужацкія ўплывы, прадажныя суддзі, фальшывая міліцыя, крывадушныя чыноўнікі і жывёльны страх...

Страх яны ўжо прагналі. А цяпер праганяюць крывадушных чыноўнікаў, фальшывую міліцыю, прадажных суддзяў, чужацкія ўплывы і карумпаваную ды злачынную ўладу...

Яны самаарганізаваліся аб'яднаўшыся вялікай ідэяй і даказалі, што грамадству непатрэбна аж столькі міліцыі, каб быў парадак. У іх парадак ёсць. Там кожны дапамагае кожнаму, там нікога не трэба прымушаць штосьці рабіць. Але ўсе стараюцца быць карыснымі агульнай справе. І не чакаюць за гэта ні заробку, ні падзякі. Яны паказалі, што такія структуры як „Беркут", АМАП ці ОМОН не толькі непатрэбныя грамадству, але яны нават і ўладзе мала якую карысць даць у змозе, калі народ бярэ кіраванне ў свае рукі.

Яны паказалі сваёй заеўшайся ўладзе, што звычайныя людзі, аб'яднаныя высокімі ідэямі, могуць усё. Нават змесці ўладу ўраганам праўды і моцы.

Яны паказалі сваім айчынным палітыкам, што пры вострай патрэбе яны могуць абысціся і без іх. Бо сапраўдныя палітыкі нараджаюцца там, у віхурах падзей і змаганні.

Яны паказалі сваім сілавікам, што ніякая сіла і аніякая зброя не ў змозе паставіць на калені чалавека, які здолеў прагнаць страх.

Яны паказалі Крамлю, які іх намагаўся купіць сваімі мільярдамі, газам ды нафтай, што яны не прадаюцца. Яны не жабракі і не папрашайкі як іх лакейская ўлада. Яны не гандлююць Радзімай.

Яны паказалі нерашучаму Захаду, што могуць абысціся і без яго дапамогі.

Яны паказалі самім сабе і ўсім, што яны — людзі. І гэта галоўнае, што яны паказалі.

Як жаласліва глядзяцца зараз многія ўкраінскія палітыкі, дэпутаты, а асабліва былыя прэзідэнты, у якіх так і не хапіла рашучасці і смеласці заняць хоць які бок. Сапраўды, не гэтым баязлівцам кіраваць такім геройскім народам. Як збянтэжана і агідна глядзяцца расійскія палітычныя дзеячы, якія лічылі Украіну ўжо сваёй вотчынай. Як разгублена глядзіцца большасць палітычнай эліты Захаду са сваімі запозненымі пасаджэннямі з так і не прынятымі рашэннямі. І які ўрок далі нашы суседзі многім беларускім палітыкам, якія працягваюць сцвярджаць, што ўбльталіся ў чарговую выбарчую кампанію з-за таго, што гэта ледзьве не адзіная легальная магчымасць паразмаўляць з суайчыннікамі. Украінцы даказалі, што дзеля размоў са сваімі суайчыннікамі бессэнсоўных выбараў чакаць неабавязкова.

Цяжка сказаць чым закончыцца гэты канкрэтны этап іх барацьбы, і як доўга працягнецца іх змаганне. Бо ўлада працягвае палохаць Майдан жорсткім сілавым разгонам і гатовая на яго пайсці. Але можна з упэўненасцю сцвярджаць, што майданаўцы галоўнае ўжо зрабілі — незалежнасць сваёй краіны адстаялі.

**Віктар САЗОНАЎ**



# Абрэзаная галава
## і сланіха Альдона

Што адрознівае пластмасавую бутэльку з-пад кока-колы ад бязвартаснай інфармацыі? Нішто. І тое, і другое ідзе на звалку. Можна сказаць, што інфармацыйнае смецце, накшталт таго, што выкідаем на звалку, з'яўляецца смяротнай пагрозай для нашай цывілізацыі. Праблема, аднак, не ў іх лішку, але ў цывілізацыі, якая не можа самастрымацца перад іх вар'яцкай вытворчасцю. З пластмасавых бутэлек, што дрэйфуюць на паўночным усходзе Атлантыкі, стварыўся плывучы востраў роўны плошчы Польшчы. А што адбываецца ў інтэрнэце? Кольказць смецевых інфармацый, якія перакочваюцца кожны дзень яго аўтамагістралямі, амаль незлічоная. Для гэтага трэба далучыць пакеты дурных паведамленняў, што перадаюцца лічбава або надрукаваныя ў газетах. Колькі з іх мае рэальную каштоўнасць, а колькі з іх падобныя на пустую бутэльку бяздумна выкінутую ў мора? Штогод вырабляем мільярд упаковак на нафтавай аснове, хоць вядома, што раскладаюцца яны натуральным чынам на працягу соцень гадоў, у той час іх утылізацыя вызваляе таксіны, якія разбураюць прыродное асяроддзе і здароўе чалавека. Усё ж не канчаем іх вытворчасці. Быццам бы большасць з нас разумее вынікаючыя з гэтага пагрозы, але ў той жа час праяўляе прыдуркаватасць, як асоба пакутуючая ад функцыянальнай непісьменнасці, якая, хаця разумее сэнс пачутых слоў, але не ў стане вывесці з іх граматычнага ладу лагічны сэнс. Дарэчы, функцыянальных непісьменных прыбывае з пагрозлівай хуткасцю. Мабыць, у Польшчы 30 працэнтаў грамадства не разумее простых паведамленняў выказаных дыктарамі тэлебачання. А які адсотак разумее тое, што кажа ці што выпісвае на фейсбуку? І што рабіць з гэтым інфармацыйным смеццем?

З 2012 года Бібліятэка Кангрэса ЗША збірае ўсе выказванні апублікаваныя ў сацыяльных парталах. На фейсбуку, твітары, і ў іншых. Як прэзідэнта Абамы, так і сярэдняй хатняй гаспадыні, прэзідэнта нью-йоркскай фондавай біржы і дворніка. Час пакажа, хто прадэманстраваў толькі марную балбатню, а хто напружыўся на глыбокія разважанні. Наколькі я добра запамятаў, у тым жа годзе архівізавана 40 мільёнаў таківх паведамленняў. У мінулым 2013 годзе — ужо 400 мільёнаў. Праз год або два іх колькасць пераваліць за адзін мільярд. Аднак, па словах ініцыятараў праекта, калі ўся гэтая інфармацыя будзе перапрацавана, сістэматызавана, скласіфікавана і інфарматычна апрацавана, будзе яна ўяўляць сабой крыніцу неацэнных ведаў аб сённяшнім часе. І больш за тое, цалкам верагодна, што з інфармацыйных фекалій адновяцца для чалавечнасці ідэі, загубленыя, пакуль што, у агульнай балбатні. Сапраўды гэтак жа як са сланцавым газам. Паводле іх, гэта ўсяго толькі пытанне яшчэ невядомых кагнітыўных тэхналогій, якія дазволяць аддзяліць глупства апранутае ў энцыклапедычныя слоўцы ад мудрасцей заблытаных у нязграбны парадак слоў. Выкарыстоўваючы прыклады з уласнага жыцця, я кажу, што вельмі сумняваюся ў гэтым.

Працу ў журналістыцы пачаў я ад функцыі журналіста-навіншчыка. Займаўся селекцыяй навін агенцтваў, пастаянна адлюстроўваючыхся на маніторы. Гэта быў пеністы гейзер дрэнных і добрых навін. Іх зместам былі справаздачы аб бягучых войнах, аб дзірах у маставой, аб засусе ў Афрыцы, паводцы ў Бангладэшы, забойствах, крадзяжах і разводах. На аснове абранага матэрыялу я ствараў карацейшыя ці даўжэйшыя артыкулы, якія цікаўны чытач на наступны дзень мог прачытаць у газеце. Прызнаюся, аднак, што не памятаю з таго часу ані войнаў, ані катастроф, ані малых ці вялікіх здарэнняў, якімі жылі тады краіна і свет. У маёй памяці засталіся толькі два жахлівыя паведамленні, якімі я не адважыўся падзяліцца з чытачамі: пра невядомага мужчыну, што шпацыраваў па парыжскім бульвары, прытуляючы да грудзей усечаную галаву маладой жанчыны, і пра дырэктара Гамбургскага заапарка, які знік без следу разам са сваёй улюбёнай... сланіхай. А імя ў яе было Альдона. Гэта факт! І столькі засталося ў маёй памяці з шматгадовай цяжкай працы навіншчыка — з усіх бесталковых інфармацый, якія як тыя пустыя бутэлькі дрэйфуюць да выспы смецця.

**Мірaслаў ГРЫКА**



**Вачыма еўрапейца**

# Чырвона дывановая дарожка

З журналісцкай цікаўнасці я нядаўна заглянуў на вэб-сайт парламенцкай групы па справах супрацоўніцтва з Рэспублікай Беларусь, дзейнічаючай пад старшынствам падляшскага дэпутата ад СЛД Яўгена Чыквіна, свайго роду „канкурэнцыі" для групы па справах Беларусі падляшскага дэпутата ад ГП Роберта Тышкевіча. На апошнім яе пасяджэнні былі закрануты пытанні выдачы віз грамадзянам Беларусі польскімі консульскімі ўстановамі. Тэма (неадназова публічна абмяркоўваная) зацікавіла чатырох з чатырнаццаці членаў гэтай групы, а ў другой часты сустрэчы — за выключэннем старшыні Чыквіна — толькі адну дэпутатку. Госцямі былі Марэк Цесяльчук, дырэктар консульскага дэпартамента Міністэрства замежных спраў ды генеральны сакратар Польска-беларускай гандлёва-прамысловай палаты Казімеж Здуноўскі. Прадстаўнік Міністэрства замежных спраў заявіў:

— Праблема з выдачай віз у асноўным заключаецца ў тым, што попыт у значнай ступені перавышае прапанову. Мы не ў стане ў гэты час задаволіць гэта, каб яны выдаваліся з дня ў дзень.

У чым прычына? Дырэктар Цесяльчук паўтарыў тое, на што прадстаўнікі польскага МЗС не раз паказвалі: „Беларускія ўлады паранейшаму не спрыяюць нам, калі гаворка ідзе аб павелічэнні штатнага консульскага кантынгента".

Адзін з дэпутатаў заявіў: „Хутчэй можна выйграць у латарэю, чым падпісацца на падачу візавых дакументаў у нашых консульствах у інтэрнэтнай сістэме".

Дырэктар Цесяльчук згадаў аб немагчымасці падпісання пагаднення аб спрашчэнні візавага рэжыму паміж ЕС і Беларуссю, як гэта мае месца ў выпадку Украіны і Расіі, у адпаведнасці з якім можна знізіць візавыя стаўкі з цяперашніх 60 еўра да 35 або нават 20 еўра і назваць катэгорыю людзей, для якіх візы былі б бясплатныя: „Гэтае пагадненне можа быць падпісана пры станоўчым падыходзе беларускага боку, якога на дадзены момант мы не заўважаем".

З залы прагучала парламенцкае сцвярджэнне: „Віза на пяць гадоў, таму што гэта самая доўгая шэнгенская віза, канчаткова скончыла б усе гэтыя чэргі пры кволым персанале ў консульствах. Такім чынам мы б нават не мусілі рэгуляваць малога памежнага руху (беларускі бок усё яшчэ затрымліваецца з пасланнем Польшчы адпаведнай ноты і пагадненне аб малым памежным руху такім чынам не можа ўступіць у сілу — М. Х.).

Дырэктар консульскага дэпартамента тлумачыў: „Нашай праблемай з'яўляецца памяшканні. Што тычыцца так званай чырвонай дывановай дарожкі, то-бок, ветлівай хуткай выдачы віз асобным катэгорыям асоб, мы прынялі, што ўключаны ў яе: уладальнікі Карты паляка, людзі ў асаблівых жыццёвых сітуацыях, асобы, якія падаюцца на запрашэнне самаўрадавых арганізацый, на афіцыйнае запрашэнне, удзельнікі культурных, спартыўных і турыстычных мерапрыемстваў».

Тут загадкава дадаў: „Асобная катэгорыя — бізнесмены. Мусіце, спадарства, звярнуць увагу, што Польшча выдае візы ў Беларусі ў поўнай прававой рэальнасці і выдача віз не можа абапірацца толькі на дэкларацыі, а на фактычнае выкарыстанне папярэдніх віз. Правільнае выкарыстанне папярэдніх віз у выніку дае выдачу доўгатэрміновай візы. Канчатковае рашэнне прымаецца на месцы консулам".

Ён спаслаўся на праблемы з электроннай сістэмай рэгістрацыі візавых заяў (г.зв. E-konsulat): „Мы ўсведамляем праблемы з тым, што звычайна называюць гандляваннем месцамі ў чарзе па візы. На жаль, гэта звязана з тым, што маем у Беларусі справу з манаполіяй у галіне інтэрнэт-паслуг і звольненыя месцы ў e-konsulat запаўняюцца адразу і перапрадаюцца трэцім асобам.

Падкрэсліў: „Беларускія ўлады ўскосна падказваюць нам рашэнне: адыдзіце ад Карты паляка, і будзеце мець больш консулаў на выдачу віз, і чарга знікне. Як вы ведаеце, гэта не ёсць рашэнне, і мы не можам прынесці ў ахвяру групу людзей польскага паходжання за кошт грамадзян Беларусі, якіх пераважная большасць прыбывае ў Польшчу па пакупкі, што з'яўляецца галоўнай дэкларанай і рэальнай прычынай іх знаходжання ў Польшчы».

Дадаў таксама, што беларускія ўлады не пагаджаюцца на арганізацыю Польшчай у Беларусі кропак падачы заяў на візы, якія затым маглі б быць дастаўлены ў консульства; такі механізм уведзены ва Украіне, дзе ёсць сем консульскіх устаноў і больш дзесятка кропак падачы заяў на візу.

Сакратар Здуноўскі ў канцы сустрэчы заявіў: „Я не магу пагадзіцца са сцвярджэннем, што нічога не зменіцца ў візавых пытаннях, бо вінаваты беларускі бок. Я не кажу, што беларускі бок з'яўляецца ідэальным. Я езджу ў Беларусь з 2008 года, прыкладна два разы ў месяц, і я не магу вызначыць, дзе беларускі бок вінаваты ў візавым працэсе. Мабыць, ёсць нефармальныя аргументы, якія такі тэзіс абгрунтоўваюць".

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Шматлюдна славілі Хрыстовае Нараджэнне

**У гэтым годзе ў маю кватэру ў Гайнаўцы заходзілі калядоўшчыкі — мясцовыя дзеткі, жанчыны са Свята-Троіцкага прыхода, а таксама з Рэспублікі Беларусь — з Елізавецінскага праваслаўнага жаночага манастыра ў Мінску, якія збіралі сродкі на дабрачынную дзейнасць. У падгайнаўскіх сёлах калядаванне — яшчэ даволі масавая з'ява, хаця, канешне, не ў такім маштабе, як было раней, калі было намнога лепшае дэмаграфічнае становішча. Калядаванне на сцэне Гайнаўскага дома культуры пачалі ладзіць яшчэ пры народнай уладзе, калі арганізаваліся раённыя і ваяводскія агляды, але разгарнулася яно да вялікага маштабу ў дзевяностых гадах і такім чынам горад стаў цэнтрам калядавання на Падляшшы.**



У катэгорыі звышгімназічных школ першае месца заняла «Знічка» Гайнаўскага белліцэя, якая завяршыла гала-канцэрт



Хор, які саставілі калектывы «Спадчына» і «Вянок» з Бельска, заняў другое месца

У «Гайнаўскіх сустрэчах з праваслаўнай калядкай», якія першапачаткова пачалі ладзіць у 1998 годзе ў Гайнаўскім белліцэі, а з часам перавялі ў Гайнаўскі дом культуры, спачатку прымалі ўдзел выканаўцы з Гайнаўкі і наваколля, але з часам тэрыторыя, адкуль прыязджаюць калядоўшчыкі, намнога пашырылася. Сёлетні XVII выпуск «Гайнаўскіх сустрэч з праваслаўнай калядкай», які праходзіў з 15 па 20 студзеня ў Гайнаўскім доме культуры, быў мнагалюдным. Побач калядоўшчыкаў з Беласточчыны ўдала калядавалі калектыў «Жывіца» з Пружан. Амаль штогод удзельнікаў гайнаўскага мерапрыемства папаўняюць замежныя выканаўцы з Рэспублікі Беларусь, а адзін раз выступіла моладзь з Украіны. Аднак каляднікі найчасцей прыязджаюць з Пружан. Гэта вынік шчыльнага супрацоўніцтва паміж гэтым горадам і Гайнаўкай. Гала-канцэрт «Гайнаўскіх сустрэч з праваслаўнай калядкай», які праходзіў 20 студзеня, удастоілі святары з гайнаўскім дэканам, мітрафорным протаіерэем Міхаілам Негрэвічам на чале, бургамістр Ежы Сірак, стараста Уладзімір Пятрочук, войт Вольга Рыгаровіч, самаўрадаўцы, людзі культуры на чале з дырэктарам ГДК Расціславам Кунцэвічам і прадстаўнікі адукацыйных устаноў.

— Арганізуючы «Гайнаўскія сустрэчы з праваслаўнай калядкай» мы стараемся падтрымліваць даўнюю традыцыю калядавання. Удзельнікі сустрэч славяць Хрыстовае Нараджэнне і прапагандуюць ідэю калядавання са сцэны. Яно ў Гайнаўцы дапаўняе калядаванне па хатах, якое надалей у нас захоўваецца. Паколькі выступаюць калядоўшчыкі ў розным узросце, адбываецца інтэграцыя прадстаўнікоў розных пакаленняў. У нашым мерапрыемстве выступаюць перадусім калядоўшчыкі з Гайнаўшчыны і Бельшчыны, але прыбылі каляднікі з Сакольшчыны, былі ў мінулым каляднікі з Сямятыч, выступаюць замежныя госці. Калядных аглядаў на Беласточчыне штораз больш, але нашыя сустрэчы — адзінае мерапрыемства, якое праводзіцца ў форме конкурснага агляду, — заявіў протаіерэй Павел Стэрлінгаў, дырэктар Дэканальнага інстытута праваслаўнай культуры ў Гайнаўцы, які кіруе падрыхтоўкай гайнаўскага каляднага мерапрыемства.

Дашкольнікі, якія калядавалі першымі, спявалі на сцэне ў вялікіх групах, а апекуны або бацькі спадарожнічалі ім з прыгожымі звёздачкамі.

— Мы да выступу з калядкамі рыхтаваліся некалькі месяцаў. Каб удала выступіць, неабходныя доўгія рэпетыцыі. У нашай групе частку калядоўшчыкаў састаўляюць дзеткі каталіцкага веравызнання, — сказала Анеля Корх, якая разам з Іаанай Сухадолай рыхтавала дзетак з калектыву «Зорачкі», які працуе ў Прадшколлі № 5 у Гайнаўцы.

У катэгорыі гайнаўскіх дашкольнікаў першае месца занялі дзеткі з Прадшколля № 5, другое — з Прадшколля № 2, трэцяе — з Прадшколля № 1, а вылучэнне — з Прадшколля № 3. У ліку наймалодшых выканаўцаў становўча вылучаўся беларускі калектыў «Лянок» Непублічнага прадшколля св. дзіцяткі Гаўрыіла з Бельска-Падляшскага, які заняў раўнапраўнае другое месца. Трэцяе раўнапраўнае месца камісія прызначыла бельскаму калектыву «Сонейка» з Прадшколля № 9.

Школьнікі састаўлялі найбольш груп калядоўшчыкаў, якія ацэньваліся ў розных катэгорыях. Два раўнапраўныя другія месцы (не было першага) у катэгорыі вучняў падставовых школ занялі калектывы «Вясёлыя ноткі» Непублічнай падставовай школы ў Арэшкаве і «Лясныя ноткі» Падставовай школы № 3 у Гайнаўцы. Вучні Комплексу школ № 2 у Гайнаўцы занялі трэцяе месца.

Ажно з Крынак прыбыў дзіцячы фальклорны калектыў «Заранка». Калядкі ў іх выкананні спадабаліся публіцы. Аднак, апрача Гайнаўкі, найбольш калядуючых груп прыехала з Бельска-Падляшскага. На высокім мастацкім узроўні выступілі супольна калектывы «Спадчына» Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Бельску-Падляшскім і «Вянок» Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Бельску, якія занялі другое месца ў катэгорыі звышгімназічных школ. Хор Комплексу школ № 4 у Бельску заняў трэцяе месца ў гэтай жа катэгорыі.

— Мы хацелі выканаць калядкі ў харавой манеры і таму абодва калектывы калядавалі супольна, — заявіла Іаанна Хількевіч, апякунка калектываў «Спадчына» і «Вянок».

Удала выступіў таксама хор Прачысценскага прыхода ў Бельску-Падляшскім, які заняў другое месца (першага не прызначылі) у катэгорыі прыхадскіх хароў. Дзяўчаты з калектыву «Астэрыя» Дома праваслаўнай культуры ў Бельску занялі трэяе месца ў катэгорыі дамоў культуры. Калектыў «Ранок» Бельскага дома культуры заняў першае месца ў катэгорыі фальклорных гуртоў. Сярод фальклорных выканаўцаў другое месца занялі гурт «Гілачка» Гміннага асяродка культуры ў Чаромсе і група калядоўшчыкаў з Падставовай школы № 4 у Бельску, а на трэцім месцы апынуўся калектыў гуртка Саюза пенсіянераў і інвалідаў з Чыжоў. Усе фальклорныя выканаўцы спадабаліся публіцы.

У катэгорыі прыхадскіх хароў выдатна запрэзентаваліся Маладзёжны хор Свята-Троіцкага прыхода ў Гайнаўцы (III месца) і Дзіцяча-маладзёжны хор «Васкліканавенне» Гайнаўскага прыхода Нараджэння св. Іаана Хрысціцеля (III месца). Парафіяльныя выканаўцы паказалі незабыўнае калядаванне ў манеры тыпічных хароў, якое рознілася ад традыцыйнага калядавання характарам спеву і выглядам калядоўшчкаў. Парафіяльныя спевакі апрануліся ў святочную вопратку, прыстасаваную да выступлення ў абаграваным памяшканні. Аднак частка калядоўшчыкаў зрабіла стаўку на традыцыйнае калядаванне са звёздачкамі і ў зімовай вопратцы, стылізаванай на тую з мінулага. З традыцыйным калядаваннем удала запрэзентаваўся Дзіцяча-маладзёжны калектыў ГДК «Званочкі», якім апякуецца былая настаўніца Вера Масайла (атрымаў вылучэнне).

Студыя песні ГДК калядавала ў канцэртнай манеры і заняла першае месца ў катэгорыі выканаўцаў з дамоў культуры і музычных школ. У гэтай катэгорыі калядавалі таксама вучні хору Грамадскай музычнай школы з Гайнаўкі і занялі другое месца, а на трэцім месцы апынуўся калектыў «Рэха пушчы» Гайнаўскага дома культуры.

Удзельнікі Майстэрні працатэрапіі і група калядоўшчыкаў Спецыяльнага школьна-выхаваўчага асяродка з Гайнаўкі (абодва гурты атрымалі вылучэнне і ўзнагароды) паказалі асаблівую эмацыйную ангажаванасць і былі ўзнагароджаны гарачымі апладысментамі. Для іх выступленне перад вялікай публікай — важная частка іх адукацыі і працэсу сацыяльнай актывізацыі.

— Нашы выканаўцы калядавалі перад бацькамі, будзем калядаваць у апякунчым аддзяленні гайнаўскай бальніцы. Яслі паказвалі мы ў Следчым арышце ў Гайнаўцы і ў Доме міласэрнасці «Самаранін», — сказала Агнешка Андраюк, музычны апякун калядоўшчыкаў з Майстэрні працатэрапіі ў Гайнаўцы.

У катэгорыі звышгімназічных школ першае месца заняў беларускі калектыў «Знічка» Агульнаадукацыйнага ліцэя з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы, які завяршыў гала-канцэрт і захапіў публіку высокім мастацкім узроўнем выканання.

— Састаў «Знічкі» ў гэтым годзе пабольшаў, бо дайшлі новыя асобы. Зараз складана знайсці час на рэпетыцыі ў будныя дні, бо пасля заняткаў вучні займаюцца ў розных гуртках і таму сустракаемся па суботах. Рэпертуар падбіраем такі, які падабаецца нашай моладзі. Ужо рыхтуемся да фестывалю «Беларуская песня», — сказала музычны кіраўнік «Знічкі» Бажэна Ляўчук.

Удзельніцы «Знічкі» Дамініка Юшкевіч, Наталля Мусюк і Юлья Пракапюк звярнулі ўвагу на добрую атмасферу ў калектыве і на патрэбу спявання калядак у святочны перыяд.

У Гайнаўскім доме культуры выступілі ажно трыццаць адна група калядоўшчыкаў. Разам калядавала больш за 560 асоб і ўсе яны ў падарунак атрымалі ласункі. Пераможныя групы калядоўшчыкаў таксама ўзнагароджваліся. Арганізатары гайнаўскага калядавання, якімі былі Дэканальны інстытут праваслаўнай культуры, Аб'яднанне «Любіцелі царкоўнай музыкі», Гайнаўскі дом культуры, прыход Свята-Троіцкага сабора і аддзяленне Брацтва праваслаўнай моладзі, захоўваюць традыцыю абдоравання калядоўшчыкаў гасцінцамі, а сродкі на іх куплю традыцыйна збіраліся ў Гайнаўскім і Кляшчэлеўскім благачыннях. Мерапрыемства фінансава падтрымалі мясцовыя самаўрады і прадпрымальнікі. Публіку ў галоўным састаўлялі гайнаўскія праваслаўныя вернікі, а на гала-канцэрт прыбылі таксама прыезджыя і вернікі іншых веравызнанняў, і такім чынам стварылі вялікую кампанію ў час калядная вечара.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

# След каралевы Боны

**Малешы, што зараз у Вышкаўскай гміне Бельскага павета, у пачатку XX стагоддзя былі цэнтрам даволі абшырнай гміны, якая больш-менш супадала з трывугольнікам Бельск — Браньск — Тапчэва; у яе межах былі тады м.інш. Пілікі і Ягуштова.**


Царква ў Малешах

Партал Вышкаўскай гміны: „Malesze należą do bardzo starych osiedli. Były zasiedlone pierwotnie przez ludność białoruską. Stanowiły dobra królewskie w ramach starostwa brańskiego. Pierwszy dokument poświadczający istnienie wsi pochodzi z 1547 roku, właśnie w tym roku „bojarzyn de Kadłubówka” otrzymał w Maleszach przywilej wójtostwa”. Тады была ўжо ў гэтай вёсцы царква. У палове чарговага стагоддзя Малешы, так як і іншыя навакольныя вёскі, пустошаць розныя войскі, якія ў той час даходзілі акурат да Падляшша: уласныя тытульнай дзяржавы, шведскія, маскоўскія, мадзьярскія ды іхніх памагатых. У 1720-х гадах у вёсцы стаяла драўляная царква крытая гонтай. У канцы таго стагоддзя ў Малешах было звыш сарака хат.

Гмінны партал: „Wójtostwo rządziło się specjalnymi prawami i mogło być, za zgodą królewską, sprzedawane. Na ziemi wójtowskiej mieszkała pewna grupa chłopów. Pozostałe grunty stanowiły już pełną własność królewską, zarządzaną przez starostów i dzierżawców. Wobec nadużyć tych ostatnich w 1599 roku król Zygmunt III Waza również dla tej wsi wydał specjalny przywilej, określający dokładnie ich prawa i obowiązki. W 1675 roku starosta brański wydzielił w Maleszach jeszcze obszar zwany Lebiednie liczący 13 włók i nadał go małżeństwu Gorsztańskich w dzierżawę. Potwierdził to król Jan III Sobieski w 1679 roku. W 1693 roku Gorsztański już nie żył i wdowa po nim przekazała (cesja) te włóki na rzecz małżonków Jaruzelskich. W 1730 roku owe 13 włók przejął Franciszek Jaruzelski. Owe 13 włók po śmierci Franciszka Jaruzelskiego wróciły pod uprawę przez gromadę wsi”. Францішак Ярузельскі быў бельскім падчашым і кляшчэлеўскім старастам. Ягоны сын Войцех быў бельскім стольнікам і харужым. Сынам Войцеха быў Бенедыкт, сынам Бенедыкта чарговы Войцех, сынам Войцеха Уладыслаў Мечыслаў, дваранін, памерлы ў 1942 годзе ў ссылцы ў Бійску, што ў вытоках Обі каля падножжа Алтая; у апошняга 6 ліпеня 1923 года быў нарадзіўся вядомы сучаснаму нашаму старэйшаму пакаленню генерал Войцех Ярузельскі...

Пасля Студзеньскага паўстання ў Малешах наспела патрэба пабудовы новай царквы, бо старая аджывала свой век. Дзеля гэтай мэты побач вёскі была закладзена цагельня, з якой вырабаў побач дарогі ў Буйнова быў узведзены новы храм і агароджа вакол яго; старая царкоўка была пазней, у 1881 годзе, перанесена на могілкі. Новая царква была здадзена ў карыстанне ў 1870 годзе ў дзень прыхадскога свята Пятра і Паўла.

Партал: „W czasach carskich Malesze były całkiem sporą miejscowością, w drugiej połowie XIX wieku ustanowiono tutaj siedzibę zarządu gminy, powstała gmina Malesze. Słownik Geograficzny z 1890 roku podaje: „Malesze — wieś, w powiecie bielskim, guberni grodzieńskiej, na północ od traktu Bielsk-Brańsk, o 14 wiorst od Bielska, z zarządem gminy obejmującej 1 869 dusz”.

W czasach II RP Malesze zostały włączone do gminy Topczewo. W 1921 roku liczyły 53 domy i 285 mieszkańców. Przeważała tu ludność prawosławna (195 osób), tylko 76 podało wiarę katolicką, a 14 mojżeszową. Pod względem narodowościowym 198 podało narodowość białoruską, 71 polską, 14 żydowską i 2 rosyjską. Zatem była to wioska wielokulturowa z przewagą ludności prawosławnej”.

У міжваенны час, пасля бежанства, Малешаўскі прыход быў скасаваны і далучаны да Міхайлаўскага прыхода Бельска, але царква ў вёсцы дзейнічала і ахоплівала сваёй апекай вернікаў з тэрыторыі сённяшніх Вышкаўскай і Браньскай гмін. Напярэдадні Другой сусветнай вайны, калі ўлады прабавалі ўвесці ў літургічны чын пропаведзі на польскай мове, вернікі на час казання выходзілі з царквы, пабойваючыся, што гэта стане ўступам да пераводу ў каталіцтва. У 1944 годзе адступаючыя нямецкія войскі ўзарвалі малешаўскую царкву. У выніку пасляваеннага тэрору з Малешаў у Савецкі Саюз выехала звыш дваццаці сем'яў. Новая драўляная царква была пабудавана ў 1954 годзе з драўніны знесенай раней лесніčоўкі на месцы ранейшай драўлянай, на старым цэрквіску.

Зараз царква ў Малешах адноўлена звонку — памалявана на блакітны колер. Недалёка царквы, на супрацьлеглым баку вуліцы стаіць двухпавярховая мураванка былой школы. У час маёй там прысутнасці на школьны панадворак заглянуў апякун будынка, у якога я даведаўся, што аб'ект пакуль бяздзейнічае, а ягоны ўласнік жыве ў Суражы. Недалёка і драўляны будынак колішняй вясковай святліцы з пустымі аконнымі і дзвярнымі праёмамі. Побач — бяздзейны ад некалькіх гадоў будынак крамы, на якім вывеска пра гатоўнасць продажу аб'екта. Цэрквіска, на якім у 1870-1944 гадах стаяла мураваная царква, зараз зарастае прыродай. Каля кіламетра ад вёскі, у напрамку Буйнова, ціхія прыхадскія могілкі.

Гмінны партал: „Bujnowo było wsią królewską, chłopską, zamieszkałą pierwotnie przez liczne grono prawosławnych, potem unitów. Bujnowo należało do królewskiego starostwa brańskiego. Właściwy rozwój wsi rozpoczął się w pierwszej połowie XVI wieku, za czasów królowej Bony. Ta energiczna Włoszka nie była „salonową królową”, lecz niezwykle przedsiębiorczą kobietą, która osobiście udawała się w teren i dbała o rozwój dóbr królewskich. To właśnie ona odbudowała tutejsze zaniedbane dobra, które na jej cześć nazwano Bonowem, z czasem nazwa zmieniała się na współczesną. Zamieszkało tutaj początkowo 10 chłopów (osadników), lecz wobec szybkiego rozwoju wsi, utworzono dodatkowe 10 gospodarstw (przed 1558 rokiem). W dokumencie z 1550 roku lokującym szpital w Brańsku wspomina się właśnie o odbudowanym folwarku Bonów, który miał obowiązek wspomagać szpital. Jest to pierwsza wzmianka o istnieniu tej wsi. Dodatkowo istniał tu folwark korzystający z pracy najemnej chłopów oraz ze służby folwarcznej. Uprawiano głównie żyto, którego nadwyżki eksportowano poprzez Nur do Gdańska. W latach 1560-1561 przeprowadzono tutaj pomiary uprawianej ziemi (pomiara włóczna). Zlikwidowano mozaiki gruntowe, wprowadzono podział na 3 pola, z których jedno było przeznaczone pod zboża jare, drugie pod ozime, trzecie było ugorem. Co roku zmieniano przeznaczenie pól. Pomiara włóczna miała wielkie znaczenie dla wsi i jej ustalenia dotyczą tej miejscowości aż do dnia dzisiejszego. Na przykład wytyczone wtedy główne drogi we wsi istnieją do dziś w takim samym kształcie”.


Вуліца ў Буйнове

Буйнова ў той час буйна развівалася ў выніку дзейнасці іншых надта прадпрымальных асоб. Чарговыя загадчыкі вёскі дамагаліся ад сялян штораз большых абавязкаў дзеля ўзбуйнення сваіх прыбыткаў ад гандлю збожжам. „Dzierżawca wymyślał nowe obowiązki, takie jak podwody, stróże, kądzielne itp., o których nie było mowy w przywilejach”. Пачатковы, гарантаваны каралеўскай прывілеяй, гадавы абавязак двух дзён працы ў фальварку быў самавольна ўзбуйнены да дзесяці дзён, а чарговымі яго ўладальнікамі да звыш пяцідзесяці дзён у год, што было ўжо амаль трыццацікратна больш, чым гарантавала пачатковая каралеўская прывілея; каралеўская ўлада ў той час траціла ў Рэчы Паспалітай аўтарытэт. Сяляне падавалі скаргі ў суды, але суддзі, падкупленыя ўладальнікамі, бралі бок апошніх. Да таго даходзілі розныя пакаранні сялян, як фізічнага, так і маёмаснага характару. Але гэта яшчэ не ўсё, уладальнік наймаў карнікаў з далейшых шляхецкіх мясцовасцей, якія тэрарызавалі буйноўскіх сялян...

Палова XVII стагоддзя прынесла ў Рэч Паспалітую сацыяльныя хваляванні, якія дакаціліся і да Падляшша. Партал: „Chłopi jednak nie pozostali bierni, na całym Podlasiu i na Rusi szerzył się w tym czasie ruch chłopski wymierzony przeciw szlachcie. Dopiero ogłoszone pospolite ruszenie z okolicznych zaścianków szlacheckich stłumiło opór chłopów. Przeciw nim stanęły też sądy referendarskie, przywódcy buntu dostali wyrok: półroczną pracę w kajdanach we dworze brańskim. W 1653 roku nowym starostą brańskim został Bogusław Radziwiłł; stanął on po stronie Szwedów w czasie wojny 1655-1660. W czasie tej wojny wsie starostwa brańskiego ucierpiały podwójnie, ponieważ wojska wierne królowi doszczętnie zniszczyły wsie użytkowane przez zdrajcę Radziwiłła, a swoje dołożyli też Szwedzi i ich sprzymierzeńcy. Po ciężkich czasach wojny szwedzkiej nastał jeszcze najazd wojsk siedmiogrodzkich i wojsk moskiewskich. W końcu 1659 roku wojska moskiewskie pod wodzą Iwana Chowańskiego złupiły Bujnowo. Po tym wszystkim jeden z tutejszych urzędników pisał: «Wiem, że w starostwie brańskim całym bodaj 10 par wołów zostało bom słyszał, że w kilku wioskach i jednego bydlęcia nie masz (....). Od chłopów nie ma już co wziąć.» Szacuje się, że 90% areałów nie było obsiewanych. Była to największa katastrofa w dotychczasowych dziejach Polski. Nawet II wojna światowa nie spowodowała tak wielkich zniszczeń w Polsce, jak owa wojna z połowy XVII stulecia. Co ciekawe, sam Radziwiłł nie poniósł żadnej kary za swoje przewinienia, ale chłopi z jego dóbr wyginęli prawie całkowicie, często właśnie z jego powodu”. Ды і ягоныя наследнікі ў Браньскім старастве не былі лепшыя, вельмі хацелася ім збагацець, а гэта адбывалася коштам мужыкоў. Партал: „Na początku XVIII wieku starostą brańskim został Jan Klemens Branicki — potężny magnat, który skupił w swym ręku wielkie dobra królewskie na Podlasiu. W Białymstoku wybudował rezydencję, miał silny garnizon wojskowy, którego nie wahał się użyć przeciw buntowniczym chłopom. Narzucał im coraz większe powinności. Sądy stawały nawet przy oczywistych dowodach po stronie Branickiego”. Чарговыя ўладальнікі яшчэ больш душылі сялян. „Mimo tego wszystkiego ówczesne Bujnowo było głównym dworem starosta brańskiego. To właśnie tutaj znajdowała się kancelaria całego starostwa brańskiego”. Слоўнік Каралеўства Польскага: „Bujnowo — wieś i folwark rządowy, niegdy główny starostwa, a potem tak zwanego amtu brańskiego, w pobliżu rzeki Nurca, w powiecie bielskim, guberni grodzieńskiej, parafia Łubin Kościelny, niedaleko źródeł rzeki Bronki”.

У сённяшнім Буйнове шмат вулачак. Па галоўнай вуліцы, з боку Лубіна, каля паловы панадворкаў не памечаны свежымі людскімі слядамі. Будынкі крамы і пажарнага дэпо пустымі аконнымі і дзвярнымі праёмамі сумна сузіраюць на вёску. Агульная урбанізацыя закранула і закладзены каралевай Бонай маёнтак з хвалюючай гісторыяй.

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

Інтэрв'ю са **Зміцерам Вайцюшкевічам** — беларускім бардам, лідарам ды вакалістам групы „**WZ-Orkiestra**", былым членам груп „Палац" і „Крыві" размаўляе Юрка Буйнюк.

# У жыцці нічога не шкадую

**Юрка Буйнюк: — Калі і дзе Вы пачыналі свой творчы шлях і музычную дарогу?**

Зміцер Вайцюшкевіч: — Даўно. Калі пачынаць з самога пачатку, то калі я нарадзіўся, адразу пачаў спяваць і панеслася. А так папраўдзе, то ў 1992 годзе, калі я пачаў спяваць свае песні і рабіць нейкія праекты.

**— Як Вам працавалася з групай „Палац"?**

— Быў я адным з пяцёх, і гэта быў, так сказаць, залаты склад „Палаца" на той час. Працавалася нармалёва, мы сем гадоў разам адпрацавалі. Лічу, што гэта быў добры час, цікавы. Мы тады шмат ездзілі з канцэртамі. Запісваючы старыя песні, мы былі ў розных мясцінах Беларусі, сустракалі шмат цікавых людзей.

**— Пасля Вы сталі адным з заснавальнікаў гурту „Крыві"...**

— У нейкім сэнсе я — адзін з заснавальнікаў ансамбля „Крыві". Шмат дзе выступалі, выйгралі шмат еўрапейскіх конкурсаў. Гэта была крыху іншая творчая гісторыя. Увогуле я свайго творчага і асабістага жыцця не шкадую.

**— Ведаю, што група „Крыві" была папулярная ў Нямеччыне. Як нямецкая публіка ўспрымала Вашу музыку?**

— Пачалі мы ездзіць з канцэртамі ў Нямеччыну з 1997 года. Да 2001 года я быў у складзе „Крыві". Мы стадыёнаў не збіралі, але людзям было цікава. Мы сталі лепшым гуртам Берліна, нас прызналі як цікавых людзей, а да таго мы стараліся папулярызаваць беларускі фальклор. І гэта не былі нейкія гульні, але сур'ёзная работа.

**— Ці зараз маеце кантакт з групамі „Палац" ці „Крыві"?**

— На жаль, не. У кожнага, так сказаць, свая дарожка. Мне самому хапае працы.

**— Першы Ваш самастойны сольны праект гэта альбом „Цацачная крама"?**

— Калі ў мяне нарадзіўся першы сын Андрэй, пачаўся досыць складаны момант так у жыцці, як і на сцэне і трэба было выбраць як ісці. Я выпадкова сустрэў паэта Леаніда Дранько-Майсюка і папрасіў яго расказаць ці ёсць нейкія тэксты для мяне і так панеслася. Гэта быў падарунак майму першынцу Андрэю Вайцюшкевічу.

**— Ваш праект, у якім зараз выступаеце, гэта „WZ-Orkiestra". Памятаю Ваш дэбют на „Бардаўскай восені"...**

— На „Бардаўскай восені" раней, у 1997 годзе, я быў з праектам „Народны альбом". Добра тады ўспрыняла нас публіка. Я ўвогуле люблю першыя мае прызнанні ў любові ў Бельску і таму і дагэтуль хочацца ездзіць.

**— Як успамінаеце працу пры супольных праектах „Народны альбом", „Я нарадзіўся тут" ці „Калядны рок-праект"?**

— Нармалёва. Мы з усімі, дзякуй Богу, нягледзячы на тое, што мінула шмат часу, надалей сустракаемся. Ігар Варашкевіч учора з'ехаў з майго хутара. З Памідоравым мы разам напіліся на яго вяселлі. З Вольскім стэлефаноўваемся і калі трэба нешта робім разам. Якраз нашая кампанія розная, але паміж намі нармалёвыя адносіны, нягледзячы на тое, што мы не так часта ходзім адзін да аднаго.

**— Пасля „Цацачнай крамы" быў альбом „Паравіны году", у якім песні пакладзены на словы Рыгора Барадуліна. Як успамінаеце працу з гэтым выдатным майстрам слова?**


goout.cz

— Для мяне быў гонар з ім працаваць. Ён пару разоў заходзіў на мой канцэрт прысвечаны творчасці Уладзіміра Караткевіча, нейкія цёплыя словы казаў. Я ганаруся, што я прычыніўся да папулярызацыі вершаў Рыгора Іванавіча, не толькі сур'ёзных, але і жартаўлівых, эратычных, вясёлых, балад. На гэтым дыску, а гэта важна, запісаны і голас Барадуліна.

**— Праслухаўшы раннюю творчасць Алеся Камоцкага, Вы яго творы на словы Барадуліна зінтэрпрэтавалі другі раз. Як Вы параўноўваеце абедзьве інтэрпрэтацыі? Ці Вы гэтым задаволены?**

— Я магу быць нечым незадаволены, але з другога боку ёсць такія творы, якія можна шукаць кожны раз. Да некаторых барадулінскіх слоў, а ён не проста піша, я звяртаюся дагэтуль. Літаральна ўчора мы сустракаліся з Уладзімірам Някляевым, вядомым мастаком Рыгорам Сітніцам і я спяваў ім гэтыя песні. Нават на самыя банальныя песні, як „Пані трошкі ў гадах", яны жыва рэагавалі — і на глыбіню слоў, і на вобразы ў вершах.

**— Як Вы пастанавілі зінтэрпрэтаваць паэзію Някляева ў музычнай форме?**

— Някляеў напісаў для беларускай сцэны каля 500 песень, але большасць была напісана на гэтак званую рыбу. Прыязджалі кампазітары з нейкай музычнай формай і ён павінен быў прыдумаць словы на даную мелодыю. А я наадварот — зрабіў музыку на яго гатовыя вершы. Нікто не бачыў ва Уладзіміры Пракопавічы паэта, а толькі тэкставіка, чорнага паэтычнага мурына, а я знайшоў яго імідж як самотнага вайдэлота, які кажа праўду.

**— З кім маеце большую душэўную сувязь: з творчасцю Някляева ці Барадуліна?**

— Цяжка сказаць, але мы з Някляевым часцей сустракаемся. Не трэба цэлы час надакучваць дзядзьку Рыгору Барадуліну. Алесь Камоцкі больш апякуецца Барадуліным. Я як бы не ў зорным небасхіле, у арбіце менш блізкай да Барадуліна. Мы з Някляевым больш такія карыфаны.

**— Як дайшло да супрацоўніцтва з „Чарамшынай"?**

— Спачатку я пазнаёміўся з Басяй Кузуб-Самасюк (мастацкім кіраўніком групы „Чарамшына" — аўт.) як з арганізатарам фольк-фестывалю ў Чаромсе, на якім мы выступалі з гуртом „Крыві". А пасля з'явілася ініцыятыва ў абарону Белавежскай пушчы і мы, ужо трохі разам знаёмыя, пачалі ад супольных выступленняў на канцэртах. Мо з 4-5 гадоў не было часу і магчымасцей, а зараз яны знайшліся і, дзякуй Богу, дыск запісалі тры гады назад. У ліпені 2010 года разам сыгралі канцэрт у Чаромсе. Дзіўна троху, бо я зазвычай сам выдаю кампакт-дыскі, а гэта ў першую чаргу яны мне запрапанавалі запісаць дыск і, спадзяюся, цікава атрымалася.

**— Як Вам лепш выступаецца: у вялікіх канцэрт-залах ці ў камерных умовах?**

— Калі мяне тысячу людзей слухае спакойна, то я таксама адчуваю сябе спакойна. Таму калі ты сам з гітарай, то трэба не толькі каб цішыня была, але нейкі кантакт, рэакцыя публікі. Тады ім не трэба гаварыць ці яны чытаюць „Нашую ніву", хто гэта Вайцюшкевіч, Варашкевіч ці хтосьці іншы. Для мяне приемна, калі ў публіцы сядзяць беларусы, якія ўвогуле не чытаюць „Нашай нівы" і ці слухаюць Радыё Рацыя.

**— Ці Вы не думалі запісаць свой канцэрт у фармаце DVD? Зараз шмат гуртоў выдае такія кампакт-дыскі.**

— Гэта не я павінен думаць, але прадзюсар. Прыйдзе момант і магчыма будзе DVD. Столькі гадоў не было відэакамер і людзі слухалі музыку. Я, шчыра кажучы, у відэагісторыю не веру.

**— На канцэртах штораз часцей можна Вас бачыць з гітарай. А ў Вашым гурце можна пачуць іншыя інструменты: піяніна, кларнет, трубка, бубны, акардэон. Які Вам найбліжэйшы па душы інструмент, найбольш паэтычны?**

— Праўду кажучы — гітара. Гэта лёгкі інструмент, насіць яго нескладана, на плечы павесіў і панёс. Я кларнетыст. Я не магу ў той самы час чытаць вершы і іграць на саксафоне. А з гітарай, так сказаць, эксперыментую. Крыху іграю, крыху чытаю вершы. Гітара — універсальны інструмент, з дапамогай якога людзям, якія проста нічога не ведаюць пра беларускую паэзію, можна яе наблізіць. Я прабую спрошчваць слухачам абстрактныя мелодыі, іграючы на гітары.

**— Даўно Вы іграеце на гітары?**

— На гітары іграю гадоў восем. Першыя канцэрты з гітарай былі ў Гайнаўцы і я баяўся. Адзін мой знаёмы з Берліна, мурын, калісьці мне сказаў: „Ніколі не бойся, толькі рабі". Калі я тое самае раблю з саксафонам, то можа не так добра атрымліваецца як хацелася б, але я стараюся выходзіць на сцэну, каб не чуць дыскамфорту, што нейкі гук іграеш па-іншаму. Я не бяру гэтага да галавы.

**— Дзякую Вам за размову. Маю надзею, што неўзабаве сустрэнемся на канцэртах на Беласточчыне.**

— Дзякуй.

**Гутарыў Юрка БУЙНЮК**

Размова запісана ў верасні 2013 г.

## Бюджэт

30 снежня 2013 г. Рада Чаромхаўскай гміны прыняла бюджэт на 2014 год. Сёлетні бюджэт складае 16 846 552 зл. на баку прыбыткаў, у тым ліку 10 783 740 зл. цякучых прыбыткаў і 6 062 812 зл. — маёмасных. Сума на баку выдаткаў складае 16 944 756 зл., у тым ліку 9 021 675 зл. цякучых і 7 923 031 зл. маёмасных выдаткаў. Дэфіцыт 98 204 зл. будзе пагашаны банкавым крэдытам.

У гэтым годзе гміна прызначыла на адукацыю ў пачатковых школах — 1 568 900 зл. і гімназіі — 1 035 800 зл., на прадшколле — 405 600 зл., на ахову здароўя — 52 502 зл., антыалкагольныя дзеянні — 49 000 зл., сацыяльную дапамогу — 628 000 зл., камунальную гаспадарку і ахову асяроддзя — 1 032 852 зл., культуру і ахову нацыянальнай спадчыны — 508 920 зл., бібліятэкі — 70 000 зл. і фізкультуру 92 300 зл.

У рамках інвестыцый прадугледжаны тры асноўныя задачы:

— рэалізацыя праекта „Паляпшэнне трансгранічнай сістэмы аховы асяроддзя гмін Чаромха і Высокае шляхам разбудовы сантэхнічнай інфраструктуры". Кошт задачы — 9 319 975 зл. У гэтым годзе будзе выкарыстаных 2 516 393 зл. еўрасаюзных сродкаў. Заканчэнне рэалізацыі задачы прадугледжана на лістапад 2015 года;

— пабудова водаправода Пагулянка — Апака-Вялікая і каналізацыя Ставішчаў, Полаўцаў і Чаромхі. Кошт задачы 3 917 354 зл., у тым ліку 2 394 942 зл. еўрасаюзных сродкаў, 682 412 зл. — з гміннага бюджэту, а 840 000 зл. будзе папоўнена банкавым крэдытам.

— закупка пажарных аўтамабіляў у рамках праекта „Супольна ахоўваем Белавежскую пушчу". Кошт задачы — 900 000 зл., у тым ліку 810 000 зл. (90%) еўрасаюзных сродкаў і 90 000 зл. з бюджэту гміны.

Апрача гэтага будуць яшчэ рэалізаваны наступныя праекты: мадэрнізацыя камунальных будынкаў у аб'ёме перакрыцця дахаў (40 000 зл.), II тур абучэння ў сферы электронных паслуг (142 914 зл., пры чым 121 477 зл. з ЕС і 21 437 зл. з гміннай касы), рамонт і мадэрнізацыя вясковай святліцы ў Баброўцы (194 420 зл. у тым 124 420 зл. з гміннага бюджэту і 70 000 зл. з ЕС).

Як праінфармаваў намеснік войта Ірынай Леанюк, рэалізацыя задач праходзіць паспяхова і можна лічыць, што закончыцца згодна з графікам.

***Уладзімір СІДАРУК***

## Аднавілі гміннную дарогу

У лістападзе мінулага года закончылі асфальтаваць маставую дарогі з Тапалян у Патоку і далей у Гозьну (Міхалоўская гміна). Фірма „Будамост" пабудавала новую маставую хутка і салідна ды паводле навейшай французскай тэхналогіі (яна здала экзамен у іншых частках нашай краіны, перш-наперш на захадзе Польшчы). Ва ўрачыстасці з нагоды гэтай падзеі былі прысутныя, між іншым, бургамістр Міхалоўскай гміны Марк Назарка, гмінная радная Марыя Анціпюк і святары: праваслаўны Аляксандр Алексяюк і каталіцкі Павел Саўць.

Зараз прыемна і бяспечна ехаць па гэтым 2,5-кіламетровым шляху ў Тапаляны і адтуль у два бакі: у Міхалова або ў Беласток цераз Заблудаў. Новай дарогай найбольш задаволена солтыс Патокі Галіна Раманюк ды яе аднасяльчане.

**(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Таленавітая моладзь атрымала стыпендыі

— Багацце, гэта не адны грошы, — адзначыў Яраслаў Дважанскі, — багацце, гэта найперш талент. Маршалак Падляшскага ваяводства звярнуў увагу на каларыт і мастацкія здольнасці нашых дзяцей і моладзі. Заявы на атрыманне мастацкай стыпендыі падало аж 170 асоб, усе яны прылажылі спіс дасягненняў, часта ў агульнапольскім маштабе.

Маршалкоўская ўправа ўжо дзесяты раз запар назначыла мастацкія стыпендыі для таленавітых вучняў. Спачатку стыпендыі назначалі для 30 асоб, зараз іх лік падвоіўся.

Як кожны год, сярод шчаслівуаў апынуліся навучэнцы са школ, дзе вядзецца навучанне беларускай мовы. У прэстыжнай кампаніі мы прыкмецілі таксама аўтараў і герояў „Зоркі". Гэта Наталля Шварц з Бельска-Падляшскага, Уля Рашкоўская з Бабікаў, Адрыяна Прусіноўская з Гайнаўкі, Оля Яроцкая з Гарадка, Юльа Іванюк з беластоцкай „чацвёркі", Сярожка Раманюк з праваслаўнай школы ў Беластоку. Сярожка раней праславіўся як пераможца беларускай дыктоўкі, якую наладзілі ў Дзень нацыянальных моў у Непублічнай школе свсв. Кірылы і Мяфодзія. Хлапец таксама таленавіты музыкант. Менавіта з-за музычных здольнасцей яму прызначылі стыпендыю. 24 студзеня, у час урачыстай раздачы стыпендый, ён выступіў перад публікай ды сыграў на валторне „Серэнаду" Шуберта.

Усіх стыпендыятаў віншуем з поспехам!

ЗОРКА




## Вершы Віктара Шведа

### Разумны і дурны

Настаўнік вучням тлумачыць
Незразумелае ім:
— Якую розніцу бачаць
Паміж разумным і дурным?

У мудрага думак столькі,
Што часу няма расказаць.
Дурны балбоча без толку,
Не можа ніяк замаўчаць.

### Хто вінаваты?

Дапытлівы Яраслаў
Сваю цётку запытаў:
— Скажы, цётка, ты свой нос
Уваткнеш у гняздо ос?

Цётка кажа: — Чаму ты
Маеш столькі дурноты?
— Сцвердзіў татка:
— Цётка Люда
Упіхае нос усюды.

## Увага, конкурс!!!

### Загадкі з роднай хаткі (№ 5-14)

**Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 16 лютага, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**1.**

**Скача ён хутка і лоўка**
**Па лесе, па полі, мячык:**
**Імчыць, уцякае ад воўка**
**Спуджаны, шэранькі**
**З.....**

**2.**

**Над палямі, над лясамі,**
**Над шырокімі лугамі**
**У небе птушкі пралятали,**
**Пух бялюткі пагублялі.**
**(С.......)**
**(Н. Парукаў)**

**Адказ на конкурс-загадку № 3-14: Мароз, снег. Узнагароды — CD з беларускімі анімацыямі, выйгралі Альжбета Харкевіч, Магдалена Стоцкая з Нараўкі, Дарыя Кулік, Моніка Зырчук-Жар з Орлі. Віншуем!**



## На чужое паквапішся — сваё страціш

*(Літоўская народная казка)*

Пайшоў неяк адзін бедны дрывасек у лес на беразе ракі ды тук-тук! — сякерай пастуквае, дрэвы сячэ. Раптам сякера як саскочыць з тапарышча і боўць проста ў ваду — у самую глыбіню трапіла. Загалосіў бядняк:

— Ох-ох-ох, прапала мая сякерка! Што ж цяпер рабіць?

У гэты час — кульгець-кульгець — прыкульгаў аднекуль стары дзед і пытае:

— Чаго ты вохкаеш? Якая бяда з табою здарылася?

— Ды вось сякерка мая ўпала ў раку, а другую купіць мне няма за што — надта ж я бедны.

— Добра, не вохкай, я табе сякерку тваю дастану.

Скінуў дзядок світку і боўць у ваду. Праз хвіліну — зірк — вынырнуў з вады з залатой сякеркай і кажа:

— На, бяры сваю сякерку!

— Ой, не, бацька, не мая гэта сякерка,— адмахнуўся бядняк.

# Дзень бабулі і дзядулі ў Міхалове



Каханая бабуля!
Каханы дзедка!
Жывіце нам сто гадоў!

**22 студзеня 2014 г.** міхалоўскія вучні адсвяткавалі Дзень бабулі і дзядулі. Гэтае свята ў нас адзначылі вельмі ўрачыста. Вялікая колькасць бабуль і дзядуляў з'явіліся, каб паглядзець выступленні сваіх унукаў.

Вучні другога класа пад кірункам настаўніц Дароты Голяк, Алены Лукшы і Эміліі Грыко падрыхтавалі выступленне **„Навагодні баль”**. Наш Новы год прывіталі героі п'есы: Бубнач, Лясны дзед, Пажарны, Камінар, Гномы, Грыбочкі, Кветкі... Яны запрасілі ўсіх гасцей да супольнага святкавання. Сапраўды, гулялі весела. І па-беларуску. Пасля прайшоў дэкламатарскі конкурс, дзе прагучалі вершы пра бабулю і дзядулю. Дзеткі, з усмешкай на твары, чыталі з памяці вершы Віктара Шведа. Сцэнарый святкавання папоўніла выступленне пераможцаў школьнага песеннага конкурсу пад загалоўкам „Памятай мяне — песні пакалення маіх бацькоў”. А на канец група вучняў станцавала песню „Бабулька”. І ўсе падняліся на ногі, каб праспяваць сваім бабулям і дзядулям „Сто гадоў”. Дарагія госці атрымалі падарункі, падрыхтаваныя вучнямі.

Святочныя віншаванні перказаў таксама дырэктар школы Ян Лукша: **„Жадаю ўсім бабулям і дзядулям многа здароўя і радасці. Каб тое каханне, якое атрымліваюць ад Вас унукі, вярталася да Вас з падвоеной сілай”.**

Гэты асаблівы дзень закончыў салодкі пачастунак. А задаволеныя бабулі і дзядулі абяцалі вярнуцца ў нашу школу праз год.



Алюсь Хаманюк з прадшколля № 14 у Беластоку

Клаўдзія СІКОРСКАЯ, *Міхалова*

## Іншая

Я не такая як усе,
І таму кахаюць мяне сваякі.
Маю кароткія валасы і вусны ружовыя,
І даўгапісы каляровыя.

І хачу быць іншай,
Нават калі мяне ўяўляюць дзіўнай.
Людзі мяне кахаюць
І добрае слова для мяне маюць.

## Далёка

Калі ідзеш далёка,
Вазьмі з сабой малако.
І заўсёды з прыродай сябруй,
Калі рукой дакранеш травы,
Зацвіце новая кветка.

У небе гараць зоркі,
А ты ў роце трымаеш зімні агонь,
І думаеш увесь час,
А ў галаве балаган.

Магдаліна БЯЛЯЎСКАЯ, *Нараўка*

## Крэйды

Каляровымі крэйдамі малюю,
Свет ад шэрасці ратую.
Сонца, поле, лясы, неба.
І нічога мне не трэба.
Для мяне ты дай хвілінку,
Будзеш мець каляровую карцінку.
Я доктар з крэйдай у руках.
Будзеш смяяцца з фарбамі ў вачах.

Нырнуў зноў стары ў ваду. Праз хвіліну — зірк — вынырнуў з сярэбранай сякерай.

— Не мая, не мая! — закрычаў бядняк. Трэці раз нырнуў стары і выцягнуў жалезную сякеру.

— Вось гэта мая! — узрадаваўся бядняк.— Дзякуй табе.

Узяў ён сякеру і пайшоў быў ужо дадому.

— Гэй, гэй! — вярнуў яго дзядок.— За тое, што ты такі сумленны, бяры і гэтыя дзве сякеры — залатую і сярэбраную.

Прыйшоў бядняк дадому і пра ўсё расказаў суседзям. Даведаўся пра гэты выпадак адзін яго ны багаты сусед, і прагнасць яго разабрала. Насадзіў ён абы-як сваю сякеру на тапарышча і пабег у лес.

Прыйшоў на бераг ракі і давай стукаць па дрэвах. Сякера адразу ж з тапарышча спаўзла і боўць у ваду!

— Ой-ой-ой! — пачаў енчыць багацей.

А тут на яго ны крык — кульгець-кульгець — дзядок прыкульгаў.

— Што за бяда ў цябе? — пытае.

— Ды вось зляцела сякера мая ды, як на ліха, у самую глыбіню трапіла. Хто ж цяпер мне яе выдавіць? — скардзіцца багацей.

— А я! — сказаў стары і нырнуў у ваду. Праз хвіліну выплывае ён з жалезнай сякерай.

— Вось табе сякера твая! Не вохкай!

— Ды не мая гэта, не мая сякера! — крычыць скнара.

Нырнуў зноў дзядок у ваду і праз хвіліну выплыў з сярэбранай сякерай.

— Ці не гэта твая? — пытае.

— Не, не мая, не мая! Мая лепшая была!

Трэці раз нырнуў стары ў ваду і праз хвіліну вынырнуў з залатой сякерай у руках.

— Вось гэта мая! — крычыць багацей і рукі да яе працягвае.

Але залатая сякера толькі — свіць — прасвістала, праляцела міма яго вушэй. І плюхнула ў ваду, а стары за ёю — боўць — і ўжо больш не паказваўся. А прагны багацей то туды, то сюды бегае, шнырыць-шукае на беразе. То прысядзе, то падхопіцца — усё чакае не дачакаецца, ці не пакажацца зноў стары, ці не прынясе дыяментавую сякеру. Пэўна, ён яшчэ і сёння на беразе сядзіць і дыяментавую сякеру чакае.

## № 5 Польска-беларуская крыжаванка

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 1:**

Бор, маг, палёт, садавіна, Ас, ларок, дар, рада, араб, лок, но, камора, скок. Базар, сала, дом, малако, вада, гара, ворс, ліка, пан, бас, лад, но, штурпок.

Узнагароды, фламастэры, выйгралі **Кінга Бах, Катажына Амільянчык** з Шудзялава, **Агнешка Вarcharановіч, Міхал Паніквіцкі** з Бабікаў, **Магда Рошчанка, Мальвіна Маркевіч, Кацярына Лаўрашук** з Бельска-Падляшскага, **Оля Пугацэвіч** з ПШ № 4 у Беластоку, **Паўліна Лаўнічук, Магда Пташынская** з Нараўкі. Віншуем!

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Bierz / Porada | Sanki | Pióro | | Polewka | |
| | Węch / Moździerz | Puchacz | | Sioło | | | | |
| Pan | | | | | | | | |
| Tur / Duga | | | | No | | | | |
| | | | | | | Bierz | Ar | |
| Pod / Kaczan | | | | Inok | | | | |
| | | | | | Ara | | | |

*Вера РАДЗІВАНЮК, Міхнаўка*



## Бярозкі

*Белыя бярозкі,*
*Я ж вас пасадзіла,*
*Кволыя, маленькія,*
*Усё на вас глядзела.*

*І калі вясною*
*Вырастуць лісточкі,*
*Станавіліся больш*
*Вашыя ствалочкі.*

*Так ляцелі годы,*
*Вясна, лета, восень.*
*Колькі ж тых гадочкаў*
*Адтуль пранеслася!*

*Выраслі бярозкі,*
*Мкнецеся да неба.*
*А я пастарэла,*
*Паміраці трэба...*

## Бабіна лета

*Разаслала бабіна лета*
*Павуцінку тонку:*
*У бляску сонца выглядае,*
*Нібы ніткі шоўку.*

*На кустоўі, на травах,*
*Дзе ні кінеш вокам,*
*Ляжыць тонка павуцінка*
*На палях шырокіх.*

*А хто ж праў гэтыя ніткі,*
*Хто снаваў па полі?*
*Трэба добра прыглядзецца*
*На цудоўны ўзоры.*

*Разабраць гэтыя ніткі*
*Ніхто не сумее.*
*А асенні вецер прыйдзе*
*Ды ўсё развее.*

## Ландышы

*Расцвіў ландыш*
*У маім садочку.*
*Прыгожы, пахучы,*
*Белыя званочкі.*

*Цяпер успамінаю*
*Майскі ціхі вечар,*
*Як мне хлопец падарыў*
*Ландышаў букецік.*

*А я цешылася ім,*
*Была маладая.*
*Белых звончыкаў букет*
*Цяпер успамінаю*

*Як убачу, што расцвіў*
*Прыгожы ландыш белы,*
*То падумаю, што ўжо*
*Жыццё праляцела.*

## Старасць

*Жыццё праляцела*
*Нібы буйны вецер,*
*Падкацілась старасць,*
*Горшы час на свеце.*

*Хоць на зямлі май,*
*Няма весялосці,*
*Бо баляць і ныюць*
*Ужо старыя косці.*

*Не магу заснуці*
*Да позняе ночкі,*
*Чую, як шчабеча*
*Салавей у садочку.*

*Выйду раніцою,*
*Сяду каля хаты,*
*Чую як на багне*
*Жоравы гарлаты.*

*Хадзіць стала цяжка*
*Па сваіх дарогах*
*І не раз прыходзіць*
*Нейкая трывога.*




*Канстанцін ЦЕЛУШЭЦКІ, Новае Ляўкова*



## Ільья

*Чорт хацеў мяне скусіць.*
*Узяў я касу на плячо*
*І пайшоў траву касіць.*
*Цераз рэчку перабраўся.*
*За касьбу я шчыра ўзяўся.*
*Трава мнецца, каса гнецца.*
*Касьба мне не ўдаецца.*
*— А хто ж косіць у абед? —*
*Запытаў старэнькі дзед. —*
*Заўтра раненька прыйдзі,*
*З расой траву пакасі.*
*— Дзедка, як цябе завуць?*
*— Ільья, і ты помні, не забудзь!*

## Каханне

*На скраю пушчы Белавежскай*
*Расла вясёлая бярозка,*
*Лісточкі мела дробныя,*
*Галінкі ўпрост цудоўныя.*

*З боку яе стаяў дубочак,*
*Караля ён быў сыночак,*
*Мускулістыя меў ён грудзі.*
*Дзівіліся яму людзі.*

*Бярозка косы разгартала,*
*На дубочка спаглядала.*
*Падабаўся ёй дубочак.*
*Каб зрабіць хоць адзін крочак!..*

*Можа, жыць было б лягчэй,*
*Так не мучыла б вачэй...*
*З месца рушыць не магла.*
*І асталася жыць адна.*

*Надышла бура вяліка.*
*Вецер ламаў усё без ліку.*
*Бярозка моцна закрычала,*
*Смерцю перад дубам упала.*

## Восень

*Бачыш — восень наступіла.*
*Дрэва лісце пагубіла*
*І яблыкаў няма ў садах,*
*Усе ў каморы і ў кашах.*

*У полі таксама сумна стала,*
*Трактарыстаў відаць мала.*
*Уся работа зроблена,*
*Бо ўжо ідзе зіма.*

*Птушак ключы адлятаюць*
*У цёплы краі, дзе вясна*
*Кліча іх сваёй прыродай,*
*Шумам рэчкі і цяпла.*

## Быліна як дзяўчына

*Расла быліна*
*Як дзяўчына.*
*Карміла яе маці.*
*Прыгожа ёй у зялёнай шаце.*

*Да сонца смяялася ўголас,*
*Ад ветру кланялася ў пояс.*
*Мінавалі дні і ночы.*
*Дзяўчына праціралa вочы.*

*Пабачыла свет шырокі,*
*Аколіў яе лес высокі.*
*Строілася і малявалася,*
*Быццам каго спадзявалася.*

*Летні дні міналі хутка.*
*Ноччу было вельмі смутна.*
*Сонца свяціла ўжо не так.*
*Пачула дзяўчына іншы смак.*

*Ранкі сталі халаднейшы.*
*Твар дзяўчыны ўжо старэйшы.*
*У акно сумна паглядзела*
*І ўся надзея адляцела.*

*Спаць лягла яна адна.*
*Прыкрыла яе густая мгла.*
*Зямля ногі спавіла,*
*Снегам сцежкі замяла*

*Ірэна ЮРЧУК, Нарва*



* * *

*Душа мая расчульвалася ад болю*
*Ела хлеб смутку*
*І жыла ў цемры*
*Я не спала і сядзела*
*Як адзінокая птушка на страсе*

*Піла слёзы дзень і ноч*
*Увесь час выклікала Цябе*
*Ты Божа пачуў рыданне маё*

*Падмацаваў маю душу*
*І ўзяў за правую руку...*

* * *

*Сяджу адна, задумана*
*Праменне сонца*
*Асвятляе мой твар*
*Успамінаю пра мінулае каханне*
*Якое даходзіла да нябёс...*

*Усё прамінула*
*Як палявая кветка*

* * *

*Царква — магічнае месца на зямлі*
*Дзе можна шчасце знайсці*
*Душа атрымоўвае падмацаванне*
*І моцнае перажыванне*
*Царква — каштоўная жамчужына*
*Спевам яе я моцна ўзрушана*
*Тут можна маліцца, маўчаць*
*І немым крыкам крычаць*

Андрэй Сцепанюк

# я іду да цябе


Андрэй СЦЕПАНЮК
wikipedia.org

## XXX

я іду да цябе словам
дарогай яго крутой і нечаканай

лесам іду
і шэлестам траў выпаленых ад свежага сонца

прасторае бягу
ціканнем гадзіннікаў і бляскам стрэлак

крыкам іду і спевам з вуснаў дзявочых
чырвоных ад вішань і яблык недаспелых

я іду да цябе як дзіця і як бабулька
ў серабры гадоў сваіх аджытых

крыжыкам на грудзях маіх з народзінаў даўніх
і веры накінутай і зразумелай намнога пазней

я іду да цябе
не ведаўшы ці ты чакаеш

у зялёнасці сваёй і ружовасці свежай
на спатканне ці выйдзеш і горача пацалуеш

у вусны мае парваныя ад спёкі і дарогі
я іду да цябе

не лячу самалётам у паветры
а роварам ног сваіх іду да цябе

я іду да цябе
і схіляюся над лёсам усіх што ў дарозе

крыўдай да цябе іду
і плачам матак сыноў загінуўшых

стрэламі пісталетаў і гармат
і кулямётаў халодных
што ляжаць у збраёўнях

з цікавасці вялікай да цябе іду
у кніжках прачытаных не заспакоенай

як драпежная жывёла да цябе іду
з ваўкамі і ястрабамі ў вачах
і валасах раскінутых

а ты ў пару тую пісьмо мне пішаш
а ты пісьмо мне пішаш
і слоў адшукаць не можаш
каб сказаць тое чым думка твая жыве

пішаш і дзверы даўно зачыненыя адкрываеш
гладзіш рукі свае белыя
з пальцамі размаўляеш
каб добра на картачцы шэрай схіляліся
і пісалі

пішаш мне пісьмо не ведаўшы
што я да цябе іду
і дарога мая яшчэ доўгая
і магу раней ад пісьма твайго дайсці
і не магу

я па картцы пісьма твайго іду
і сляды ступнякоў сваіх астаўляю

я іду да цябе і крык свой
у цемру начную кідаю і баюся

я іду да цябе і дайду
а ты скажаш што цябе ўжо няма

## XXX

якая ты невядомая
прачытаў ужо ўсе кніжкі і газеты
і агітацыйныя лістоўкі
і нічога аб табе не ведаю

ці старая ты ці маладая
ці жаночая ці мужчынская
ці алебастравая ці чорная

адчуваю цябе паўнакроўнасцю сваёй
а ведаць не ведаю

пасля кожнай сцяжынкі ходу майго
у памяці не застаецца ніякі твой вобраз

тады плачу і крычу і шалею
і рукамі сваімі цвёрдымі
б'ю ў сцены тваёй невядомасці

а ты маўчыш
не кланяешся да мяне словам і маўчыш

## XXX

бегам тваім я апантаны
даўжынёю крокаў тваіх і ног ашчаднасцю
на карце здарэнняў
твая сцежка размытая
і дарога твая нечаканая
ў сваёй непаслядоўнасці

вось пачатак яе і канец
дзве кропкі ці плямы
размываюцца яны і не дазваляюць зразумець
ці месца іх першае ці другое
ці проста тваё гэта месца пачатку і канца

## XXX

выходжу з цябе і блукаю
і дарогі знайсці не магу
якая павядзе мяне ізноў у цябе

выходжу з цябе
і кветкі пах свой губляюць
і ў зелле калючае мяняюцца

адвакат я твайго зняволення
і суддзя тваёй непрысутнасці

як малы хлопчык і стары дзядуля
у судзе шчасця твайго прымаю ўдзел
і клянуся на святое пісанне
верыць кожнаму твайму слову

выходжу з цябе ў няспеласці сваёй
неданошаны да дзевятага месяца
і поўдня твайго нараджэння

## XXX

і хачу назваць цябе
і рот адкрываю і бязгучна вымаўляю тваё імя

імя тваё і мянушку тваю запісаныя алоўкам
у школьным сшытку з карткамі
ў лінейку ці кратку

кожны след свой астаўляе гавару
і змазваю тое што раней напісаў

імя тваё гавару
я надам табе імя тваё
а ты смяешся і шчабечаш вуснамі
сваімі чырвонымі
і выкрыўляеш рот свой і крычыш
што няма цябе ў імёнах і прозвішчах няма
але я запісаць цябе хачу
і вусны і рукі мае не могуць

## XXX

я іду да цябе і штораз лепш ведаю
што дарога мая ніколі не канчаецца
што ты не скажаш што я ўжо прыйшоў
магу сесці і адпачыць

я іду да цябе і разумею што дарогі такой няма
якая давяла б мяне да цябе

я іду да цябе хуткасцю думкі сваёй
розуму свайго апантанасцю
і затрымацца не магу і дайсці не змагу

я іду да цябе каб забыць дзён сваіх недахоп
і начэй вочы адкрытыя

я іду да цябе плачам рук і тулава
безвыходнасцю няшчасця
і шчасцем вызваленым з палону

я іду да цябе і не чакаю
што скажаш мне слова і песню заспяваеш
і хлеб пакінеш на стале з соллю і святой вадою
я іду да цябе

## XXX

не канчаецца дарога дарогі маёй да цябе
і ісці далей хачу і затрымацца хачу

учарашні краявід за акном вачэй маіх
размываецца ў небасхіле тваёй сукенкі

няхай толькі споўніцца ядро
і ў малітве дарогі сваёй затрымаюся

не дайшоўшы да цябе я адначасова
ад цябе вяртаюся
зачараваны анёламі і людзьмі
што выходзячы з царквы паглядзелі
на сваё абмярцвенне

не такая ты як у песнях і вершах
што ляжаць у пустых падзямеллях

малітву сваю складаю з даўніх здарэнняў
і расчараванняў навейшых
і прашу каб словы не паўсталі
а доля дазволіла ісці далей

а ісці ўжо не хачу і хачу да яркасці
маёй цёмнай
з кароткімі фразамі слоў тваіх непачутых
і не выяўленых
у галовах і думках маіх

# Калядкі ў Гарадку

Гарадок сапраўды расспяваны і гасцінны. Доказам гэтаму быў канцэрт калядак. Спеўныя гурткі ледзь памесціліся на немалой сцэне. Некаторым, асабліва наймалодшым, трэба было амаль ваяваць за доступ да мікрафонаў. Канкурэнцыя вялікая, а паказаць свае ўмеласці хацелася кожнаму. Развесялілі гледачоў сваёй сцэнічнай бадзёрасцю выхаванцы мясцовага садзіка. Стаць цэнтрам зацікаўлення гэта асноўнае, аб чым мараць вясёлыя гномікі-каляднікі. Тут і мара здзейснілася. Больш таго, за калядаванне арганізатары абдароўвалі кожнага з іх пліткай малочнага шакаладу.

Такі ж салодкі пачастунак выспявалі і выйгралі сабе „Асенні ліст", „Расспяваны Гарадок", залуцкая „Каліна", „Хутар", дзіцячыя „Цынамонкі", мясцовыя, надта таленавітыя вучаніцы гімназіі і „Гітарная крэпасць Гарадок". Каляднікам з непадалёкага, крынскага аб'яднання „Тэрра інкогніта" гаспадары нарыхтавалі цэлы салодкі стол быццам з верша „Пакланіся добрым людзям" Уладзіміра Паўлава:

*Век дзяліся тым, што маеш, —*
*Хлебам-соллю, казкай-краскай.*
*Ну, а ў госці запрашаеш,*
*Гавары ўсім:*
*— Калі ласка!*

Дырэктар Гарадоцкага цэнтра культуры Юры Хмялеўскі з гонарам падкрэсліў, што ягоныя калектывы закалядуюць таксама на конкурсах і аглядах у Беластоку, Чорнай-Беластоцкай і Тарэспалі.

Наш тыднёвік пажадаў поспехаў гарадоцкім артыстам і пацікавіўся ці абрад калядавання захаваўся таксама ў пазасцэнічным жыцці мясцовыга насельніцтва.

Галена Бура з „Асенняга ліста" помніць, як у родных Пяньках калядавалі яе цёткі і мама. „Кожны год з гвяздаю хадзілі, — гаворыць яна. — У вёсцы добра прымалі каляднікаў. Людзі жылі там творчыя, многія ўдзельнічалі ў вакальна-тэатральных калектывах Надзеі Азяблы. Калісь у Пяньках было дзевяноста хат, цяпер засталося пятнаццаць. Памалу гэтая традыцыя памірае. Калі няма людзей, не будзе і калядак", — прарочыць шасцідзесяцівасьмігадовая жанчына. Яна ўжо не ў змозе прыгадаць, якія дакладна калядкі тады спяваліся. „Не помню як яна пачыналася, як Марыя дзіцяткаві сенам ножкі абтуляла", — хвалюецца Галена Бура.


Крынская „Заранка"

Ні яе дзеці, ні ўнукі традыцыі калядавання ўжо не трымаюцца. „Калі нас, старэйшых, не стане, гэта ўсё загіне", — сцвярджае спявачка.

„Мой дзядзька і тата калядавалі з гвяздаю, — гаворыць Юры Хмялеўскі. — Я, будучы малым хлопцам, хадзіў па вёсцы з шопкай. Тады ў вастраўскай царкве служыў бацюшка Беразавец. Шопку ўспрымаў ён як частку нашай традыцыі. Туды мы ўстаўлялі праваслаўную іконку і свечку, — працягвае ўспамін дырэктар ГЦК. — Тадышнія калядкі гучалі даволі дзіўна. Поўна ў іх было паланізмаў і русізмаў, ствараючых асаблівую моўную сумесь".

У Востраве ўжо не закалядуюць, але на гарадоцкай сцэне заспяваюць яшчэ не адзін раз.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**


„Хутар" з Гарадка


Дзеткі з садка ў Гарадку


„Twierdza Gitarowa" з Гарадка



## Дата з Календара

Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара



Забытае імя беларускага змагара

# 125 з дня нараджэння Язэпа Мамонькі

Беларускі палітычны дзеяч Язэп Мамонька нарадзіўся 28 студзеня 1889 г. у вёсцы Залессе (цяперашні Слуцкі раён). Вядома, што гэты выхадзец са Случчыны быў у шэрагу тых, хто змагаўся за ўсталяванне беларускай дзяржаўнасці. Яшчэ пры расійскім царскім рэжыме адсядзеў за сваю бунтарскую дзейнасць амаль тры гады. Мамонька быў у гады Першай сусветнай вайны тэлеграфістам, а арыштавалі яго за рэвалюцыйную актыўнасць.

Са студзеня 1918 г. наведаў Свержанскую воласць як прадстаўнік Цэнтральнай беларускай вайсковай рады, разам з нейкім Краўчанкам наведаў валасны сход, на якім зрабіў прамову, якая заклікала да аб'яднання беларусаў і да ўзбраення, бо ў гэтай воласці засталася зброя ўкраінцаў. Усё было прынятае народам без пярэчанняў і нават ухвалена рэзалюцыя, складзеная Мамонькам для пратэсту супраць гвалтоўнага разгону Першага Усебеларускага з'езда. Ваенна-рэвалюцыйны камітэт, даведаўшыся пра гэта, „спешна стаў на ногі", усталяваў у тую ж ноч тэлефонную сувязь з усімі атрадамі войскаў, размешчаных у гэтым раёне, прывёў у гатовасць баявую батарэю і кулямёты. Па вуліцах Свержаня быў расстаўлены ўзмоцнены ўзброены патруль. Мамонька, маркуючы па ўсім, быў арыштаваны. Але яму ўдалося ўцячы з-пад варты. Язэп становіцца сябрам прэзідыума Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. Пазней будзе арыштаваны ўжо польскай уладай.

У 1921 г. па даручэнні кіраўніцтва БНР Мамонька едзе ў Менск для каардынацыі вызвольнага змагання ў Заходняй Беларусі. Яго чакалі новы арышт саветамі і высылка ў Казань. Але ворагі і апаненты рана радаваліся: у верасні таго ж 1921 г. палітычны ўцякач, пераадолеўшы некалькі еўрапейскіх межаў, як піша Уладзімір Арлоў, „з лёгкай усмешкай на сваім адкрытым сялянскім твары ўвойдзе ў залу пасяджэнняў Першай Усебеларускай палітычнай канферэнцыі ў Празе".

На Другой Берлінскай канферэнцыі 1925 г. Мамонька рэзка выступіць супраць роспуску ўрада БНР і на знак пратэсту лясне дзвярыма. Праз некалькі гадоў, услед за шмат якімі паплечнікамі, Мамонька прыме фатальнае і неабачлівае рашэнне вярнуцца ў Беларусь і атрымае савецкую візу. Роднае неба ён будзе бачыць без кратаў усяго некалькі хвілін. На памежнай з Латвіяй беларускай станцыі Бігосава Мамоньку адразу арыштуюць супрацоўнікі ОГПУ. Гэтым разам вырвацца ад бальшавікоў і ўцячы з-пад арышту не ўдасца. У 1937 г., калі 10-гадовы лагерны тэрмін наблізіцца да заканчэння, сталінская „тройка" НКВД засудзіць Язэпа Мамоньку да смяротнага пакарання. Яго расстраляюць на тэрыторыі Комі АССР 10 верасня страшнага ў нашай гісторыі 1937 г.

Рэабілітаваны беларускі палітычны дзеяч будзе толькі ў наш час — Пастановаю Вярхоўнага Суда Беларусі ў 1989 і 1993 гадах. Помнікаў Язэпу Мамоньку і вуліц з яго прозвішчам у Беларусі няма. Адзіным ушанаваннем можна лічыць несмяротны літаратурны твор Янкі Купалы „Тутэйшыя", дзе адзін з персанажаў згадвае імя нашага героя.

**Падрыхтаваў УЛАДЗІМІР ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Феміда (не)справядлівасці

21 лістапада 2005 года ў службовым памяшканні ЗУС у Беластоку па вуліцы Млыновай, 28, працаўнікі службы аховы здзейснілі насілле на пенсіянеры з Сухавольцаў, сямідзесяцігадовым Уладзіміры Герасімюку (пісаў я аб гэтым у допісе „У ЗУСе б'юць" у „Ніве" № 28 ад 9.07.2006 г.). У выніку ліхадзейства пацярпеўшаму траўміравалі галаву. Медагляд зрабіў эксперт судовай медыцыны. Пасля чатырох з палавінай месяца Уладзіміра Герасімюка спасціг апаплексічны ўдар, затым у 2011 годзе чарговы. Стан здароўя старэчы пагаршаецца. Ад васьмі гадоў хадайнічае ён за прывядзенне злачынцаў да адказнасці. Безвынікова. „Бязвінныя грэшнікі" („Ніва" № 36 ад 3.09.2006г.) скрываюцца за заслонай Феміды (не)справядлівасці…

### Фальшывае абвінавачанне

Раённая пракуратура Беласток-Полудне 21 лістапада 2005 года ўзбудзіла следства па знішчэнні люстра ў кабіне ліфта вартасці 500 зл. на шкоду ЗУС, затым у справе пашкоджання цела Уладзіміра Герасімюка. З дакументаў вынікала, што працаўнікі ЗУС абвінавацілі наведвальніка, а быў ім Уладзімір Герасімюк, у тым, што кліент скандаліў у службовых кабінетах і лаяўся нецэнзурнымі словамі, затым разбіў люстра ў ліфце. Абвінавачанні не пацвердзіліся. Пракуратура спыніла следства. І хоць паводле закону Уладзімір Герасімюк не быў віноўным ні падсудным, кляймо авантурыста і злачынцы цягнецца за ім па сённяшні дзень.

Сапраўдныя віноўнікі ганебнага чыну застаюцца беспакаранымі.

### Феміда (не)справядлівасці

Прашэнні і заявы, сланыя дырэктару ЗУС у Беластоку і цэнтралі ў Варшаве, затым у канцылярыю Заступніка грамадзянскіх правоў, адбіліся быццам гарох аб сцэнку. Усе дулі ў адну трубку: Уладзімір Герасімюк авантурыст і злачынца...

Такой жа думкі зараз і Беластоцкая пракуратура. Калі ў красавіку мінулага года Уладзімір Герасімюк паслаў прашэнне Генеральнаму пракурору аб аднаўленні заўчасна спыненага следства, прашэнне з прыкладзенымі дакументамі было перададзена ў Беласток на разгляд. Раённая пракуратура прытрымалася ранейшага рашэння, колькі просьбіт, на думку намесніка раённага пракурора, не прад'явіў новых доказаў у справе. Здзіўляе адказ акруговага пракурора Дароты Дэц, якая патрабаванне аднавіць крымінальнае следства лічыць неабгрунтаваным. Паводле яе, пасля васьмі гадоў нельга даказаць ці абодва ўдары гэта вынік здарэння ў ЗУС, затым папракае пацярпеўшага ў васьмігадовай бяздзейнасці, у выніку чаго страціліся доказы, якія маглі б быць выяўлены, калі б ён тады абскардзіў рашэнне пракурора. І тут дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што гэта няпраўда быццам бы Уладзімір Герасімюк сядзеў склаўшы рукі. Доказам гэтаму з'яўляюцца дакументы ў актах справы. Асноўныя, гэта адказ ЗУС на пісьмо Уладзіміра Герасімюка з верасня 2006 года, затым публікацыі ў „Ніве", у якіх пенсіянер публічна абвінавачваў ЗУС і працаўнікоў аховы ва ўчыненні пабояў. Гэта было ўсяго чатыры з паловай месяца пасля здарэння. У такім выпадку, пасля прэсавых публікацый, Раённая пракуратура абавязана была ў рамках службовых абавязкаў узбудзіць следства. Але не ўзбудзіла, па прычыне ёй добра вядомай: скрывала сапраўдных злачынцаў. Такім чынам, на маю думку, беластоцкая Феміда аказалася сляпой. Таму яна не прыкмячае (або не хоча прыкмячаць) заганных хібаў беластоцкіх пракурораў.

**Уладзімір СІДАРУК**

## НАШЫ карэспандэнты

# Па гарачых слядах

Раніцай 22 студзеня г.г. а гадзіне 6.30 ехалі мы пасажырскім аўтобусам ПКС са Старога Ляўкова ў Міхалова і далей у Беласток. Дарога была заснежана. Калі мы толькі выехалі са Старога Ляўкова ў напрамку Лешукоў, пачуўся густы папяросавы дым. Шафёр закурыў. У аўтобусе ехалі ў ліцэй у Міхалове дзве вучаніцы ды чатырох старэйшых пасажыраў і пасажырак.

Шафёр курыў падчас язды! Пасажыры надыхаліся горкага дыму. Ці гэтак можна атручваць пасажыраў? Марознай раніцай верхнюю шыбу ў аўтобусе немагчыма было адсунуць. І так, адзін накурыў, а мы ўсе надыхаліся дыму. Таму неадкладна бярэм на прыцэл паводзіны несур'ёзнага вадзіцеля аўтобуса ПКС. Такі паступак падвяргаецца крытыцы.

**(яц)**

# Перабудуюць маставыя

Аднаўленне вуліц у Гайнаўцы ад дзесяці гадоў з'яўляецца прыярытэтнай справай. Улады горада дбаюць пра вуліцы, каб былі яны бяспечныя, роўныя ды прыгожыя.

У мінулым годзе былі адноўлены маставыя на пяці вуліцах, у тым ліку вул. Ажэшкі, Пташынскага (яна кароткая — 200 метраў), Верпахоўскага і Жвіровай — за 3 мільёны 250 тысяч злотых. Найбольш небяспечнай была маставая на вуліцы Ажэшкі. Тут былі стары ды раструшчаны асфальт на маставой на 350-метровым адрэзку і былі глыбокія ямкі.

У 2013 годзе мадэрнізавалі электраасвятленне на дзевяці вуліцах у цэнтры горада і на яго перыферыі — за трыста тысяч злотых.

Сёлета ў Гайнаўцы плануецца аднавіць маставыя на вуліцах Лагоднай, Сонечнай і Мендзыторы на пасёлку Мендзыторы (за 280 тыс. зл.) ды на вуліцы Герояў Вэстэрплятэ (за 200 тыс. зл.) і на вуліцы Ясяновай на пасёлку Ліпавая (за 215 тыс. зл.). Побач маставых на некаторых вуліцах пабудуюць веласіпедныя дарожкі. У горадзе іх няшмат. Будуць яшчэ адрамантаваны вуліцы Гранічная, Медзяная і Металёвая на пасёлку Пашкі (за 209 тыс. зл.). Гэтыя гарадскія дарогі атрымаюць таксама дажджавую каналізацыю.

Варта дадаць, што пабудову новых маставых на вуліцах Лагоднай (яна доўгая) і Сонечнай пачалі ў пачатку лета ў мінулым годзе.

У Гайнаўцы дбаюць і пра тое, каб вуліцы мелі роўныя тратуары. Найбольш задаволеныя з тратуараў гайнаўяне, якія жывуць па вуліцах Пілсудскага, Баторыя, Паддольнай, Электрычнай, Паркавай, Касідлаў, Ліпавай, Ракавецкага, Мілкоўскага і 11 Лістапада.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

# Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — баскійскую пагаворку.

1. Тодар, балгарскі лідар у 1954-1989 гг. = 3 _ 4 _ 19 _ 17 _ 15 _ 16 _;
2. прозвішча міс Нігерыі 2013 года (*Stephanie Okwu*) = 10 _ 5 _ 14 _ 2 _;
3. узнос, доля капіталу = 9 _ 7 _ 8 _;
4. доўгае паглыбленне выкапанае ў зямлі = 6 _ 18 _ 11 _;
5. службовы разрад = 1 _ 13 _ 12 _.

(ш)

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | 4 |
| | | 5 | 6 | 7 | 8 |
| | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

### Адказ на адгаданку з 1 нумара

Асцё, гад, Данія, кат, маца, падзея, пытанне, раджа, рубель, сак, тын, Ціса, цэмент, Цюмень, Швецыя, юшка.

Рашэнне: **Сённяшняя бальніца, гэта месца, дзе пацыенты перашкаджаюць дактарам весці дакументацыю**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Веры Русіновіч** з Нарвы і **Міхалу Байко** з Беластока.

# 02.02 — 08.02

**(22.03. — 20.04.)** На гарызонце новая жарсць — цешся ёю, бо адкрые ў табе агромны патэнцыял. Засяродзься на адной справе. Тыдзень прынясе ўсеагульную ўвагу да тваёй персоны, будзеш проста нарасхват. Не выключана і тое, што сутыкнешся з мноствам плётак, інтрыганствам і зайздрасцю.

**(21.04. — 21.05.)** 6.02. будзеш аслаблены, не слухай сваіх прадчуванняў. Набудзеш каштоўную інфармацыю, калі будзеш слухаць і назіраць. Праявіш дыпламатычнасць, каб дамагчыся ажыццяўлення сваіх даўніх жаданняў і планаў.

Калі пасля заходу сонца ў панядзелак ці ў суботу ў цябе ў руках зломіцца іголка, шыла ці нейкі іншы востраканечны металічны прадмет, гэта значыць, што чакае цябе страта сіл і недахоп жыццёвай энергіі.

**(22.05. — 22.06.)** Люты будзе ад цябе патрабаваць шмат адвагі, калі на яе здабудзешся, лёс адплаціць табе багата. 2-5.02. аформіш ключавую справу і выйдзеш з кожнай кабалы. Можаш пакарыстацца рэдкім шанцам. 6-7.02. твае прафесійныя справы могуць пайсці не вельмі добра.

**(23.06. — 23.07.)** Шыкуецца жарсны раман. Будзь уважны, і заменіш яго на вялікае каханне. Чакаюць нейкі дарунак, добры крэдыт ці высвятленне спадчынных спраў. Сямейныя справы ў гэтыя дні зыдуць на другі план. Знакаміты час на навуку новых навыкаў: запішыся ў трэнажорную залу, змяні дыету, кінь курыць ці лішне выпіваць.

**(24.07. — 23.08.)** Будзеш мусіў змерыцца з зайздрасцю, але яна навучыць цябе пакоры. Калі часта падарожнічаеш, арганізм можа ўзбунтавацца — будзеш стомлены, нервовы, з аслабленым імунітэтам — многа спі, рэлаксуйся. Тыдзень без асаблівых падзей і здарэнняў. Ненайлепшы час для прапановы рукі і сэрца каханай асобе, для заключэння саюзаў і аб'яднанняў. Адкладзі на потым любыя рашэнні, якія датычацца твайго асабістага жыцця.

**(24.08. — 23.09.)** Не змагайся з самім сабой і не рабі ўсяго адразу, бо страціш энергію. Меркурый можа 6.02. заблакаваць твае дзеянні — адмоўся ад іх або перанясі на пасля. Не засяроджвайся на хваробах, а на тым, што можаш зрабіць для здароўя.

**(24.09. — 23.10.)** Пастаў на дысцыпліну, а шмат табе ўдасца. Да гэтага шчопаць творчасці — і поспех мураваны! Будзеш медыятарам у сям'і. Схочаш упарадкаваць сваё нутро і ўсё што навонкі, і гэта табе вельмі добра зробіць (можаш пачаць ачышчальную дыету). Увесь месяц грошы будзеш хутчэй збіраць, чым выдаваць.

**(24.10. — 22.11.)** Слухай голасу розуму — падкажа табе найлепшыя вырашэнні. У пачуццях і ў пары — толькі на сур'ёзна. Гіперапякунскія бацькі будуць над табой трасціся. Замала сну, зашмат працы, нездаровая дыета — гэта можа адбіцца на тваім здароўі. Таксама шаленства і бравасць могуць кончыцца кепска; пільнуйся на дарозе, насі добры абутак, рацыянальна карміся. З 4.02. пачынаецца ў цябе новыя прафесійныя перспектывы.

**(23.11. — 22.12.)** Сустрэнеш асобу, дзеля якой варта змяніць жыццё; не дазволь ёй знікнуць. У пачуццях шмат жарснасці, і нямала зайздрасці. Дома атмасфера спакою. Прытармазі лакомства. На працы і ў фінансах навучыся прасіць дапамогі.

**(23.12. — 20.01.)** Аварыі аўто, спозненыя цягнікі і зменены шляхі аўтобусаў дакучаць табе асабліва з 6 лютага. Але стрэс і цяжкая праца не будуць табе страшныя. Да работы будзеш аж гарэць (матывіроўка, вядома, грошы), дадатковыя заробкі. Пачне з цябе біць струмень жыццярадаснасці і энергіі. Спраўна будзеш рэгенеравацца.

**(21.01. — 19.02.)** Глядзі чаго прагнеш — мары будуць цяпер здзяйсняцца! Гарманічна ў сям'і. Дзве першыя дэкады лютага засяродзься на сваім здароўі, перш за ўсё на сэрцы. Асабліва Вадалеі, якія ядуць тлуста і салодка, могуць адчуць вынікі такога стрававання. Паправіцца сітуацыя на працы — асоба, якую ты лічыў ворагам нумар 1, схоча з табою паправіць адносіны, будзе з цябе біць гейзер новых задум.

**(20.02. — 21.03.)** 2-6.02. будзеш паспяховы і ўпэўнены ў сабе, зрэалізуеш усё за што возьмешся, наладзіш новыя знаёмствы, здабудзеш важныя інфармацыі. Хаця 4-5.02. будзеш раздражнены і ахвотны ставіць справы рубам, благі настрой можа адбіцца на фінансавых рашэннях. На здароўе не будзеш наракаць, хаця можа дакучаць табе стрававальны шлях — пі заспакаяльныя зёлкі.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00]. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2014 roku — 52.
**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# Мода на Грузію

## (ч. 5)

**Спачатку я не магла надзівіцца рашучасці і настойлівасці грузінаў, з якой яны выступілі ў абарону роднай мовы. Усе надпісы, шыльды, рэклама працавалі на грузінскай мове і алфавіце, падобным на старажытную глаголіцу. Найбольш складана было дагаварыцца з маладымі. Тыя адразу заяўлялі аб няведанні рускай мовы і прынцыпова прапанавалі перайсці на англійскую. У апошнім выпадку адчувалася нейкая неахвота размаўляць па-руску. Палова тых, што прапанавалі перайсці на англійскую, зусім не разумелі гэтай мовы.**

Апошняя складанасць, хоць збівала з панталыку, выводзіла на прыхаваныя здольнасці. Следам старажытных падляшукоў мы пачалі чытаць мову жэстаў, прыкмячаць знакі, ды кіравацца падказкамі інтуіцыі. Верагодна, нас суправаджалі добрыя сілы. Усе намеры былі здзейснены, мы траплялі ў жаданыя месцы, якія з сённяшняй перспектывы бачацца як цуд. Так, менавіта запамяталася Мцхета, другая старажытная сталіца Грузіі...



Мцхета

* * *

Яшчэ да прыезду ў Тбілісі мы рашылі адразу пакінуць сталіцу і пад покрывам ночы падацца маршруткай у славутую Мцхету. Пасля трыццаці хвілін язды цёмнай далінай мы апынуліся на месцы. У час язды мы пыталі пра гасцініцу і месцы для начлегу. Усе хацелі дапамагчы, а ўжо найбольш незнаёмы дзядзька, які сядзеў найбліжэй нас. Калі шафёр спыніўся ля старога турыстычнага квартала, ён сышоў з маршруткі і асабіста давёў нас пад пансіянат спадарыні Галіко. Сам, не чакаючы слоў падзякі, завярнуўся і знік у цемры...

У пансіянаце прынялі нас з адкрытымі рукамі.

— А хто ж вам параіў да мяне прыйсці? — дапытвалася спадарыня Галіко, не хаваючы задавальнення.

Паколькі наш выпадковы гід і дабрачынца выглядаў як іншыя дзядзькі ў маршрутцы, мы не ўмелі апісаць яго знешняга выгляду. Нам самай відавочнай рысай падалася яго ветлівасць...

Спадарыня Галіко пасяліла нас у пакоі, размешчаным на першым паверсе сваёй камяніцы. Праз акно, як рукой падаць, стаяў самы каштоўны архітэктурны цуд Грузіі — кафедра Свеці-Цхавелі з жыццядайнай калонай і адзінымі ў сваім родзе фрэскамі, якія прадстаўлялі знакі гараскопа. Пад самым акном пансіяната расла буйная пальма.

У першым парыве мы не намерыліся каментаваць пабачанага...

Праўда, зысці на зямлю дапамагла адна акалічнасць. Усярэдзіне пансіяната панаваў холад як у псярні. Таму мы пакінулі манаткі і пайшлі на горад папіць віна...

* * *

Сляды пасялення чалавека ў Мцхеце сягаюць тысячы гадоў да нараджэння Хрыста. Найбольшы росквіт горада выпадае паміж трэцім стагоддзем да нараджэння Хрыста і шостым нашай эры. Менавіта тут знаходзілася сталіца старажытнай Іверыі, ад якой грузіны выводзяць свой радавод. Таксама ў Мцхеце, у 337 годзе, адбылося хрышчэнне Грузіі. Гэта была другая краіна ў свеце па Арменіі, якая прыняла хрысціянства.

У начным святле горад нагадваў ілюстрацыю са святых сярэднявечных кніг. Аўру таемнасці падбіваў каменны мур з вежамі, які акаляў кафедру. Хоць на двары было марозна, на каменных лавах ва ўваходнай браме выседжвалі жабрачкі, якія прасілі грошай на рускай мове. Апошняя справа ўразіла, паколькі гэта быў першы рускамоўны акцэнт у публічнай прасторы, які мы пабачылі на працягу першых трох дзён.



Дыяна Нахіла з паняй Гуліко





Сама Мцхета напамінала курорт у багатай Італіі. Невыпадкова. У 2009 годзе горад быў занесены ў Спіс сусветных культурных каштоўнасцей ЮНЕСКА. Частка вулачак і будынкаў была адрамантавана, як пад візіт цара. Новы воблік старога горада вельмі ўдала перакліка́ўся з сучасным іміджам Грузіі, краіны самай старажытнай і адначасова цудоўна амалоджанай...

Нейкі час кружылі мы па вузкіх, абязлюдзелых і неасветленых вулачках горада. Здавалася, тут паўсюдна сумуюць па турыстычным сезоне. Рэстаран „Таверна”, куды накіравала нас пані Гуліко, быў закрыты на тры замкі. Нечакана, у цёмным завулку, да нас загаварыла жанчына на рускай мове. У вочы кінулася яе славянскасць. Яе светлыя валасы і мілагучная гаворка здаваліся тут экзотыкай.

— Я таксама палячка, — заявіла на самым пачатку знаёмства Тамара. Яна распавяла пра продкаў, якія прыехалі ў Грузію за лепшай доляй напрыканцы XIX стагоддзя. — Яны прыехалі з Трускаўца, — дадала.

Калі мы паяснілі, што Трускавец сёння ў межах Украіны, Тамара разгубілася.

Яна назвала сваё сямейнае прозвішча, каб дапамагчы ёй вырашыць: польскае яно ці ўкраінскае? Апошняя пытання мы не ўмелі высветліць, паколькі сямейнае прозвішча нашай выпадковай знаёмай, было характэрнае для ўсіх нацый Еўропы, нават падляшукоў. Карацей, яе продкаў называлі Шварц.

* * *

У рэстаране, куды літаральна даставіла нас Тамара, выседжвала мужчынская кампанія, адна закаханая парачка і стройны целаахоўнік, які сваім знешнім выглядам напамінаў Віталія Клічко.

Даведнікі, і асабліва турысты, ахвяры грузінскай кулінарыі, не раяць харчавацца ў рэстаранах і барах, якія працуюць па-за сезонам. Стравы, якія мы заказалі, пахлі лядоўняй і хіміяй. Ад кулінарных сенсацый выратавала нас грузінская самагонка чача. Праўда, калі афіцыянтка падносіла нам чарговыя порцыі нацыянальнага напітку, на нас з дакорам і грэблівасцю спазіралі дзядзькі з-за суседняга століка. З падобнай падазронасцю яны глядзелі на закаханую парачку. Праўда, маладыя пілі адно грузінскую гарбату, але хлапец, які выседжваў з грузінскай прыгажуняй, гергетаў па-немецку!

*(працяг будзе)*

**Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960